# ЛЕТАПІС

## Т-ВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ

### КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК



A. Gretchaninoff

№ 3-4. Вільня, Жнівень — Верасень 1933. Год I

# Зьмест:



## АД РЭДАКЦЫІ.

Зноў прайшло два месяцы, пакуль мы набралі неабходную суму дзеля выпуску ў сьвет 3—4 нумару „Летапісу“.

Каб ня было затрыманьня ў далейшым мы зьвяртаемся з гарачай просьбай да сваіх сябраў і Беларускага грамадзянства падтрымаць „Летапіс“ зьбіраньнем ахвяр і складак на падпіску. Сьведамых беларусаў у вёсках і мястэчках дзесяткі тысяч; калі кажды дасьць па пяць грошаў, нават па аднаму грошу ў месяц, то мы поўнасьцяй забяспечым рэгулярны выхад у сьвет культурна-грамадзкага месячніка. Такая ахвяра па сілам кожнаму. Трэба хацець не на славах толькі, каб пашыралася роднае друкаванае слова. Далучым да свайго хаценьня энэргіі і волі, і выхад з цяжкага палажэньня заўсёды будзе знойдзены.

З такой-жа просьбай аб падтрыманьні мы зьвяртаемся і да сваіх братоў-беларусаў, якія знаходзяцца за межамі нашага краю, і маем надзею, што наш голас — наша просьба — дойдзе да іхняга сэрца: яны зразумеюць наша ...ытычна-цяжкае становішча і прыдуць з так патрэбнай нам дапамогай.

Усім, хто да гэтага часу не адгукнуўся на наш заклік, высылку „Летапісу“ СПЫНЯЕМ.

# ЛЕТАПІС
## Т-ва Беларускае Школы
КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК

| | |
|---|---|
| Цана: 3 зл. 60 гр. на год<br>1 „ 80 „ „ паўгода<br>асобны нумар 50 гр. | АДРЭС РЭДАКЦЫІ:<br>Вільня, Боніфратэрская 2—3 |

№ 3-4 | Жнівень — Верасень, 1933 г. | Год I

ВАСІЛЬ ЮРАВЕЦ.

# Да працы.

Гэй вы хлопцы! Гэй дзяўчаты!
Дзьвінем дружна ў ТБШ!
Там дык праца распачата
Нам карысна й хараша.

Ўсе па нітцы, па шнурочку
Зложым, хлопцы, з кожных хат,—
Глядзіш, голаму сарочку
Зробім, хлопцы, напрыклад.

А тады цясьней павяжам
Ўсе гурткі ў адно зьвяно,
Ды другім прыклад пакажам,—
Разам дзьвінем — за адно!

Гэй вы хлопцы! Гэй дзяўчаты!
Усе адзін да аднаго!
Калі-ж месца не занята
Дык займай хутчэй яго!

*Вільня. Жнівень — Верасень 1933 г.*

З пачаткам восені, калі закурлыкаюць ў небі, адлятаючы ў вырай, жураўлі ды гусі, нейкі асаблівы, ціхі сум агартае маладую беларускую душу. Так і хочацца крыкнуць, шчасьлівым вандроўнікам: „свабодныя, птахі, завідую вам!“...

А яны, гордыя, даўгім шнурам высока над зямлёю цягнуць туды, дзе многа сонца, дзе ёсьць цяпло і спожыў, — лятуць, каб ізноў разам з вясною вярнуцца на бацькаўшчыну і будаваць новае жыцьцё.

У гэты самы час наш вясковы пастушок, якога гора сялянскае будзіла рана перад усходам сонца, карміла сухою скарынкаю, мачыла даждждом на пяшчаных узгорках пад ялаўцовымі кустамі, таксама павінен накіравацца ў „вырай“ у суседні горад, ці сяло, дзе сьветам сваім сьвеціць навука, дзе

цяплом сваім саграваe душу песьня і мастацкае слова. Для яго вырай — гэта школа, скуль ён павінен выйсьці здольным будаваць новае, лепшае жыцьцё сваей Бацькаўшчыны — Беларусі.

На вялікі жаль, для беларускага дзіцяці ў сучаснай школе халодным сьветам сьвеціць навука, халодным цяплом грэе песьня і мастацтва, бо гэтая школа чужая, мова незразумелая, песьня незнаёмая, чужое мастацтва сваімі формамі наагул слаба прамаўляе да сэрца нашага дзіцяці. Пасьля выхаду з такое школы, яму трудна будаваць культурнае жыцьцё, бо ён ня мае асновы, самае пачаткавае веды, без якое немагчыма чакаць поступу, бо пачаткавая веда — фундамэнт для культурнага разьвіцьця — найлягчэй здабываецца толькі ў роднай зразумелай мове, і ў роднай школе.

У такіх абставінах асеньні сум паглыбляецца здавалась бы да безнадзейнасьці. Але гэта толькі суб'ектыўная здань слабога чалавека.

Калі уважна прыглядзецца да шырокіх народных масаў, прыслухацца да народнага сэрца, можна заўважыць нешта дужа пацяшаючае — гэта проста стыхійная цяга народная да асьветы, гэта спосабы шуканьня выхаду, кожны раз асаблівыя ў залежнасьці ад абставінаў. На вонках перашкоды, а ўнутры народ расьце ў паважную сілу, да якой павінны добра прыслухацца, і ў першую чаргу ўсе тыя, хто працуе на ніве народнай. Толькі там можна зачарпнуць сілаў для змаганьня за свае ідэалы!

Народ выявіў магутную волю, дамагаючысь у першую чаргу роднае школы. Праўда, гэтае школы не атрымаў, але не адступіўся ад свае мэты. Народ праз свае арганізацыі шукае магчымасьцяў вучыцца і не перастае думаць, як здабыць родную школу. Можа тысячу спосабаў прыдзецца перабраць пакуль на тысяча першым здабудзе тое, да чаго імкнецца. Народ павінен мець свае належныя правы.

Дзьве беларускія філіі, якія, да слова сказаць, паступова палянізуюцца (ўжо гісторыя і географія выкладаюцца папольску), зусім не вырашаюць школьнага пытаньня, і таму яно застаецца чакаць належнага вырашэньня, адпавядаючага патрэбам і жаданьням беларускага народу.

Мы павінны зьвярнуць увагу на дамаганьне урадавай беларускай школы, бо гутарыць аб прыватным школьніцтве ў сучасных абставінах — гэта новы цяжар на плечы працоўнага селяніна: для прыватнай школы трэба будзе даць дагодныя варункі згодна вымогам уставы аб школьніцтве, утры-

мацць вучыцеля і абслугу. Гэты новы цяжар зусім не пад сілу для сялянскага бюджэта.

Пакуль польскія школы ня будуць ператвораны ў беларускія, неабходна дамагацца безадкладнага выкладаньня беларускае мовы ў польскіх школах. Пры чым гэтае выкладаньне павінна быць пастаўлена на належнай вышыні пэдагагічных вымаганьняў і не такімі вучыцелямі, што уважаюць беларуса з яго моваю за ніжэйшую касту. Трэба энэргічна дамагацца, каб беларуская мова не знаходзілась на задворках культурна-грамадзкага жыцьця. Яна мае права на пашану да сябе, такжа як і сам народ.

Перад намі пісьма з розных канцоў Зах. Бел., у якіх апісваецца, як наша моладзь саматугам вучыць родную мову, за адсутнасьцю кніг, па газэтам. Гэтую цягу да асьветы ў роднай мове неабходна выкарыстаць і прыйсьці з арганізаванай дапамогай з боку сьвядомых і больш адукаваных. Трэба ў кожнай вёсцы закладаць групы самаадукацыі, кіраваньне якімі мусяць узяць на сябе нашы сябры. Пяць — шэсьць асобаў у ваднэй групе — вось першая крыніца адкуль павінна пашырацца граматнасьць. Бо ўзапраўды-ж ня можна сядзець і чакаць сваей нацыянальнай сьмерці, а ў лепшым выпадку зноў заснуць на пэўны час гісторыі.

Калі ўсім гэтым здольным масам беларускае вясковае моладзі даць нармальныя варункі для здабыцьця навукі, то наша вёска дасьць вялікіх талентаў у галіне літэратуры, поэзіі, мастацтва і навукі, мы будзем мець сваіх здольных дахтароў, адвакатаў, вучыцялёў, інжынэраў, коопэратараў, якія не пабаяцца, як гэта здараецца цяпер з некаторымі „беларусамі“, гутарыць роднаю моваю і даючы свае грошы на беларускае друкаванае слова, не пабаяцца, што аб гэтым хтось даведаецца, і што гэта зашкодзіць можа на апініі.

Пакуль што мы ня можам скардзіцца, што за многа маем інтэлігэнтных спажыўцоў. Так, мы маем невялічкую адносна кучку інтэлігэнтаў і поўінтэлігэнтаў, сьведамых і поўсьведамых фаховых і не фаховых, але мы яшчэ за мала маем інтэлігэнтных змагароў за народнае вызваленьне з цемры. Іх дае пакуль што вёска, пераважна, як самавукаў.

Здабыць, узгадаваць гэтых так патрэбных нам працаўнікоў найлепей можа дапамагчы толькі родная мова, родная школа. Таму на парадку дня, як сымболь нашае веры, як дакора сумленьня праз увесь час павінна стаяць пытаньне, як здабыць родную школу, як пашырыць у масах роднае слова

і культуру. Бяз гэтага трудна будзе здабыць сабе лепшую будучыню.

Вось чаму безнадзейнасьць ў школьным пытаньні, як гэта, напрыклад, ставіць „Беларуская Крыніца“, заклікаючы шукаць ратунку ў польскіх фаховых школах, павінна быць прызнана вельмі шкодным зьявішчам у беларускім культурнавызваленчым руху.

Трэба так працаваць і жыць, каб сум нашае беларускае восені ператварыўся ў бадзёрыя вясеньнія настроі.

**П. МІХАЛЬСКІ.**

# Да нашае моладзі.

Моладасьць, моладасьць! Табе прысьвячаю радкі наступныя, веручы, што Ты не асьмяеш майго сэрца гарачых парываў, не асудзіш маіх, мо' надта высакалётных пробаў разумаваньня.

Хай кожная недарэчнасьць мая не выклікае пяруноў братніх, бо словы мае скіраваны з добрым замерам...

Мы часта любім рабіць уагульненьні, ды трэба баяцца, каб яны не былі перадчаснымі...

Цяжкі наш шлях. З нялюдзкімі высілкамі прыходзіцца здабываць сабе веду, тую веду, на якую маем сьвятое права.

Мусім карыстаць з чужацкіх здабыткаў культурных і адначасна мусім згадзіцца з заклікам сумленьня, якое часта паказвае нам тыя скарбы, што схаваны пад роднаю балонаю, не заўсёды даступнаю нашым слабым, пакуль што высілкам.

Не адзін з нас упадзе духам перад немагчымасьцю асьвятліць той цёмны лябірынт, у якім месьцяцца нашыя нечапаныя скарбы; не адзін, пабіваючы балючае сумленьне, схаваецца пад чужацкую страху, каб ня бачыць братніх сьлёзаў; мо' іншаму нат' сумленьне не скажа аб сваім прабуджэньні.

Аднак-жа, пушчанае ў ход жыцьцё не паўстрымаецца ні яўнымі варожымі перашкодамі, ні хітрымі, ня менш страшнымі пасткамі.

Дрэва, рост якога устрымліваюць, скрывіцца, абмінаючы свае перашкоды, ды ўжо потым разрасьцецца ў магутную карону і толькі знакі калецтва на ладызе будуць напамінаць аб барацьбе, пераглытай за права, за жыцьцё, за сьвет...

Годны палітаваньня той, хто будзе ўхіляцца перад кожнаю перашкодаю; бо ў самым камлі ён будзе надта скалечаны.

Той-жа, хто сваім ростам здоляе адкінуць шмат гэтых перашкодаў, будзе ўцешаны пазьнейшай памыснасьцю: яму мейсца ў Пантэоне славы.

А жыцьцё не чакае, ня ўстрымліваецца ні на хвіліну, бо, калі нехта сільны паложыць гаць на яго дарозе, яно, бы тая рака, уздымаецца ў гару, выдзе з сваіх берагоў, з шумам і пенай пераскочыць цераз штучную перашкоду і пойдзе далей прысьпешаным крокам, высьмяваючы сваім булькатам таго бедака, які думаў яго паўстрымаць.

Жыцьцё не чакае; яно пойдзе, пакіне нас, калі мы разам з ім ісьці не захочам, — пакіне, і праз усё нашае існаваньне мы будзем пачувацца нешчасьліўцамі, недарэкамі, апошнімі...

Тады народзіцца ў душах нашых злоба, якая падшапне нам, падвучыць нас зваліваць віну нашае мізэрнасьці на іншых людзей, на акалічнасьці, ды на розныя немагчымасьці.

Але сьлёзамі ды нараканьнямі не збудуем свайго шчасьця: трэба каваць жалеза пакуль яно яшчэ не астыла.

---

П. Міхальскі.

## Іграй дудар...

*Іграй, дудар, ня бойсь нікога:*
*Словы твае сьвяты!*
*Хай з парога да парогл,*
*Ад хаты да хаты*
*Абляціць твой кліч прызыўны,*
*Кл.ч жыцьця і волі!*

*Іграй дудар, — твой голас дзіўны*
*Не памрэ ніколі, —*
*Рэхам сумным пранясецца*
*Над заснуўшай нівай,*
*Бор пачуе, адзавецца*
*Ноткаю шчасьлівай.*

*Калі цемра йшчэ пануе —*
*Йграй, не падай духам:*
*Толькі зло адно ня чуе*
*Праўды грубым вухам.*

---

**М. ВАСІЛЁК.**

# Сяўбіт слова.

**(Пасьвячаю Т. Б. Ш.).**

Ў блеску кос - праменьняў
Бачыў раз вясной я,
Сеяў сяўбіт жменяй
Слоўца маладое.

Грудзі на распашку,
Потам твар заліты...
Цяжка была, цяжка
Праца для сяўбіта.

І ўзышла - ж кудзеля
Руні залацістай,
Ў раз - жа палынь - зельле
Заглушыла чыста,

Зацьвіла іродзіста
На прасьцяг шырокі
Зорачкай срыбрыстай,
Сонейкам далёкім.

Хутка дасьпявалі
Поўныя калосься. —
Гымнам шчасьця - долі.
Песьня палілася...

Каб на праўду трапіць,
Ня змовіўшысь з доляй
Выйшаў сяўбіт, ма быць,
ў сваё родна поля.

Зьнекуль, з вышыні тэй,
Сілаў цёмных немач —
З працы сакавітай,
Плойма груганьня, бач,

Плод сабраць хацела,
Зруйнаваць сьвятыню
Так плюгава, сьмела...
Думаючы: згіне

Пышнае багацьце —
Ясных дзён кувала!
Мала таго, брацьця,
Гэтай крыўды мала:

З ім і сяўбіт згіне
Цёмны, шэры ўбогі, —
Зкуль ён можа сяньня
Ждаць тэй дапамогі...

Ўрэшце з жалем большым
Скавытнула бура,
Нібы над памёршым
Ладзячы хаўтуры...

Але ён вялікі,
Моцны волат з сталі,
Праз глухія зыкі
К сонцу, к ясным далям.

Шлях свой скіраваўшы
Цьвёрдаю ступою,
Горда, сьмела выйшаў
Нішчыць цемру боем.

І грудзьмі мільёнаў
Песьня перамогі,
Замест плачу, стогнаў,
Заліла разлогі...

„Сяўбіт не загіне!“ —
Чутны словы песьні,
Цемра ў злосьці сіняй
Скавычы хоць трэсьні!

Брацьця, верым, — сонцам
Ў сьвет вялікі глянем!
Хай красуе ніва
Ў славу пакаленьням!

# Расквітала вясна.

Расквітала вясна... Асалодай красы — забыцьця
Абняла, спавіла ўсё абняцьцямі ціхіх пяшчот,
І пад гымн, пад акорд струнаў казачнай ласкі жыцьця,
Цалавала блакіт, з пышных красак пляла карагод.
Пьянай вохнасьцю дыхалі сьвежыя грудзі зямлі,
Абнімалася з сонцам лязурна-празрыстая даль,
І ў садочку маім ружы майскай красой зацьвілі...
Чаго-ж сэрцу майму ружаў мілых цяпер гэтак жаль?..
Бо ня доўга яны красавалі на покаце хвіль...
Гэтак ўсё наймілейшае хутка праходзіць для нас...
Так і шчасьце, як той сінякрыленькі кволы матыль,
Жыве трэйцяга дня — пакуль сонца прамень не пагас.
Восень злая з разгулам віхрыстых дажджлівых начэй,
Бы зайздросьцячы шчасьцю чыймусь выцьцём сьцюжы,
Зруйнавала красу... Яна зьнікла пакорна з вачэй, —
Адцьвілі, адцьвілі мае пышныя, мілыя ружы...
І ў грудзёх у маіх красавала таксама вясна,
Толькі мне разумець, як кахаў я яе, як любіў...
Але судзіць так лёс выпіць горкую чарку да дна:
Я вясну маладую навекі, навекі згубіў...

**В. ЮРАВЕЦ.**

# Наш гурток...

**(Пасьвячаю сябрам Гарадоцкага гуртка).**

I.

Наш гурток ў сучаснай эры,
Ні то гасьне — ні гарыць:
Два замкі падперлі дзьверы,
Пэўна штось яму баліць.
Мо' пружына аслабела
Главаром гуртка — сябрам,
Ўрэшце, мо' заіржавела
Дык трэ' нову ўставіць нам?!
Не! Здаецца, ўсё ў парадку,
Як і зьверху, так знутры —
Трэ' зьнясьці сяброўску
[складку, —
Сорам — вышло ўжо з пары!

Годзі ўжо, даволі спалі,
Пара, сябры, уставаць,
Ад другіх, пабач, адсталі,
Якась мусіма дагнаць!
Дык таўкні сусед суседа,
Ушчыпні свайго сябра!..
Сьпі як хочаш — я, брат, еду!
Чуеш ты?! — Даўно пара!

Маем добрую чыгунку,
Зробім большы тып калёс
І папрэм у тым кірунку,
Дзе цяпер чарот парос.
Зломім, згомтаем чароты,
Сьмецьце выкінем, — згарэм...
Дык шпарчэй-жа да работы, —
З мяне першага пачнем!

23.VII.1932 г. в. Грыбаўцы.

II.

Гэтак ехаць, як мы пхнемся,
З аглаблямі без атос, —
У паўдарогі астанемся,
І чарот той будзе рос!
А тут з боку, як на тое,
Вельмі многа перашкод,
Што тармозяць, як на злое,
Наш нясьведамы народ:
Топчуць, рыюць каляіны,
Сьмецьце кідаюць, плююць,
У бок цягнуць аглабліну,
Далей ехаць не даюць.
Воз то скача, то віляе
З каляіны скрозь на бок.

Прыклад гэтакі, вось, мае
Гарадоцкі наш гурток.
Пакідаем тагды пхаці, —
Дзе трэ' ехаць—мы стаяць—
Ды праэкты будаваці,
Хто-б ляпей мог кіраваць.
І што дня перакладаем
Гэты цяжар задарма,
Вынік вось які мы маем:
Лепш ня было і няма!
Не сьцябаць-жа нас па сьпіне,
Як за паншчыны калісь.
Справа ўся у дысцыпліне,
Ды такой, што аж дзяржысь!...

25.VII.32 г. в. Грыбаўцы.

---

Г. Ш.

# Першыя крокі.

**(Вершы В. Юраўца).**

„Са дня арганізацыі Т-ва Бел. Школы знаходжусь сябрам Гарадоцкага гуртка; быў сэкрэтаром Управы, тое-ж самае становішча займаў і ў Управе гміннага гуртка. Аб працы гуртка злажыў многа вершаў“.

Так піша ў сваей аўтабіографіі наш сябра Васіль Юравец, вершы якога падаем нашым чытачом у сягоньняшнім нумары

Амаль усіх сучаснага пакаленьня яшчэ дзяцьмі на сваіх страшных хвалях выкідала вайна з родных межаў.

Пад час зваротнага прыліву людзкое хвалі, яны вярталісь на родныя попелішчы ўжо сьвядомымі юнакамі з багатым і цяжкім вопытам.

Галодныя, босыя, халодныя асядалі яны разам са сваімі блізкімі і бацькамі на родных загонах, паросшых густымі лазьнякамі і лесам.

Асядалі, каб карчаваць поле, вырабляць глебу, змагацца з голадам, холадам і цемрай.

Панурае, цяжкае жыцьце...

Ня так лёгка залячыць раны вайны.

Жорсткія умовы вымагаюць надлюдзкіх высілкаў.

Слабыя гінулі, дэмаралізаваліcь. Мацнейшыя гартаваліcь, расьлі, працавалі, змагаліcь.

Да ліку гэтых апошніх належыць і Васіль Юравец.

Сялянскі сын, цяпер работнік тэкстыльнай фабрыкі, ён меў магчымасьць скончыць толькі пачатковую школу. Разумеючы вялікую патрэбу культурна-нацыянальнага усьведамленьня, ён да сяньняшняга дня стаіць у першых радах Т-ва і змагаецца за асьвету, за родную школу для свайго брата селяніна і работніка.



В. Юравец.

За работніцкім станком ён выкаваў сабе бадзёры погляд на жыцьцё. Ён ня ўмее плакаць над крыўдамі, над горкім лёсам, як многія з нашых пачынаючых паэтаў, а наадварот, будзіць санлівых, тармошыць апусьціўшыхся:

„Дык таўкні сусед суседа
Ушчыпні свайго сябра“.

Гэта ён кажа сваім супрацоўнікам у гуртку, якія часова заблудзіліcь, упалі духам, давялі гурток да заняпаду. Адчуваючы тое, што ніва беларуская парасла чортапалохам, закінута, запушчана, ён адважна кліча сваіх сябраў да працы:

„Зломім, згомтаем чароты,
Сьмецьце выкінем, згарэм...
Дык шпарчэй-жа да работы,
З мяне першага пачнем!“...

Такі яго кліч заўсёды вясёлы, бадзёры жыцьцярадасны.

Калі-б на вёсцы вялася належная, усьведамляючая праца, то ня было-б мейсца і дзікаму фанатызму розных сэктаў, якія выпускаюць сваіх „прарокаў“, каб дурманіць цёмных сялян. З прычыны паяўленьня такога „прарока“ Гальяша ў в. Грыбаўцы Юравец піша да сваіх сябраў:

„Пабудуй, сябры, бар'еры,
Закладзеце ТБШа, —

Цуд пакажам, дасьце веры,
Лепшы чым у Гальяша.

Вось чым трэба змагацца з кожным зьдзічэньнем: усьведамляючай культурна-асьветнай працай, якую вядзе Т-ва.

У сваіх вершах Юравец дае водгук на ўсе балячкі вясковага і фабрычнага жыцьця. Пішучы „Да ведама вёскі Мелешкоў", ён радзіць сялянам выйсьці да працы талакою і салідарнаю дапамогай адзін аднаму змагаць сваю бяду - гора.

„Мелешкі даўно хварэюць —
(Без пары ня едзе сьмерць),
Ад чаго не разумеюць,
Трэ' ім лысіну нацёрць.

Чорт сядзіць у іх балоце,
Што ня відна нават рог;
Ходзіць кожны, як па дроце,
Каб загразнуці ня мог.

У жывіны мокры рогі,
Бедна мучыцца чаго?
Погляд мае вельмі строгі,
Так прабіла бы каго".

Трудна чакаць еднасьці сялянскай там, дзе „сіла іх так застаецца астываці задарма", і таму ўсе яны і нават „жывіна" іх толькі мучацца ад гэтага.

І далей канчае так:

„Каб з вас людзі не сьмяялісь,
Не казалі: Мелешкі!
Вы адразу-б дагадалісь
Мае выпіць парашкі.

Тады будзеце багаты,
Стане стог вам на стагу.
Не жадаю з вас заплаты —
Добрым словам памагу".

Праўда, у гэтых працах многа ёсьць і недахопаў. Першае і самае галоўнае гэта недастатковае апанаваньне беларускай мовай. Неабходна добра папрацаваць над формаю сваіх вершаў, якія маюць яшчэ многа слабых мейсц з боку будовы рыфмы і рытму. Другое ня меньш важнае заданьне, гэта, працуючы над удасканаленьнем сваей мовы, трэба зьвярнуць належную увагу і на азнаямленьне з творчасьцяй лепшых паэтаў і пісьменьнікаў. Нам хочацца, каб у наступных сваіх творах гр. Юравец памінуў усе гэтыя недахопы, каб іскра поэзіі, якая засьвяцілась там, каля Беластоку, між сябрамі Т. Б. Ш., загарэлась яснай зоркай для ўсей Беларусі.

Мы вітаем першае літэратурнае выступленьне маладога поэта з добрымі задаткамі здаровага гумару, бодрасьці і адвагі, якія так патрэбны нашаму народу.

Пад той час, калі амаль усе нашы пачынаючыя поэты бываюць ахоплены сымбалічнай цягай ад зямлі ў бязмежныя прасторы, да сонца, — Юравец наадварот ня хоча адарвацца ад зямлі і фабрыкі, ён хоча прыблізіць сонца да зямлі, каб асьвятліць ім сялянскую ніву і работніцкі пасёлак.

Г. ШЫРМА.

# МУЗЫЧНАЯ АПРАЦОЎКА БЕЛАРУСКІХ МЭЛЁДЫЙ.

**(Гарманізацыі А. Т. Грэчанінава).**

Вывучэньню Беларусі з боку этнографічнага многа увагі аддавалі выдатныя акадэмікі і этнографы канца XIX і пачатку XX сталецьцяў. Вонкавы быт, мова і народная творчасьць беларусаў даволі багата прадстаўлена ў навуковых працах акадэмікаў Е. Карскага, А. Сабалеўскага, А. Шахматава, проф. М. Доўнар-Запольскага, Харузіна, Нікіфароўскага і ў зборніках Насовіча, Шэйна, Раманава і іншых.

Але ува ўсіх гэтых працах вельмі мала мейсца адводзіцца вывучэньню народных мэлёдый і музыкі. Амаль да сусьветнай вайны беларуская народная мэлёдыя была нязнанаю людзям навукі. Магчыма часткова гэтым і тлумачыцца тое, што беларуская песьня даўгі час спатыкала да сябе толькі пагарду нават з боку людзей, маючых салідную музычную падгатоўку.

„Трудно представить себѣ, что-либо тоскливѣе, заунывнѣе и горше бѣлорусской пѣсни", — пісаў Львоўскі ў № 11 „Живописнаго Обозрѣнія" за 1901 год. Такая характэрыстыка абурае, і зусім слушна, нашага слаўнага этнографа Е. Р. Раманава, які ў прадмове да свайго 7-га зборніка, пішучы аб народных беларускіх песьнях у 1910 г., кажа: „яны рашуча запярэчваюць устанавіўшамуся погляду аб беднасьці беларускіх мэлёдый. Праўда, большая частка іх сумныя і выклікаюць сьлёзы ў слухачоў, маламальскі знаёмых з трагічнай гісторыяй гэтага народа-гаротніка, але за тое яны-ж сьведчаць аб глыбокай старажытнасьці беларускай народнай поэзіі і служаць доказам жывучасьці і сілы беларуса, не згубіўшага, ня гледзячы на ўсе гістарычныя пераварoты і цяжкія перасьледаваньні, свайго этнаграфічнага вобліка".

Так выступаў ў абарону беларускае песьні не спэцыялісты музыкант, а этнограф.

Перад самай вайной і падчас ужо вайны знаёміцца бліжэй з беларускімі мэлёдыямі і бярэцца за апрацоўку іх высока уталентаваны музыкант і кампазытар Александар Тіханавіч Грэчанінаў. Ужо адна зацікаўленасьць беларускай песьняй з боку такога вялікай музыкальнай культуры кампазытара сьведчыць аб тым, што песьня гэтая зьяўляецца бяздоннай крыніцай красы для мастацкіх апрацовак.

На канцэртных выступленьнях, не адзін раз адбываўшыхся ў Вільні, гарманізацыі А. Т. Грэчанінава так рэльефна выступаюць спасярод іншых, ствараюць такія асаблівыя настроі, што публіка ня толькі беларуская заўсёды зьвяртаецца з просьбаю паўтарыць, або просіць дазволу перапісаць іх. Прастата, яснасьць, прыгожая гучнасьць без непатрэбных чужых народу бравурных эфэктаў, строга захаваны народны калярыт, дужа цікавы і не аднастайны спосаб гарманізацыі, — вось асаблівасьці гэных апрацовак, якія так выгадна адрожніваюцца ад іншых. „Пірапёлка", „Раёк", „Пірад Пятром", „Калыханка", „Вясьнянка" — гэта такія цудоўныя музычныя беларускія абразкі, што іх пачынаюць пяяць нашы суседзі, а „Перапёлачка" даляцела нават да Амэрыкі.

Той уклад, які зроблены Грэчанінавым у гісторыю разьвіцьця беларускае песьні да гэтага часу прадстаўляецца так. Для мяшанага хору апрацаваны: „Пірапёлка", „Раёк", „Пірад Пятром", „Чаму сілязень", „Ляце-

ла зязюля“, „Ня кур, ня вей мяцеліца“, „Ішла каляда“, „Ой куры, куры“, „А дзе сонца ўзыйдзе“, „Ці у полі не калінка была“, „Не пры пуці бела бярозачка стаяла“, „Памру, памру маці“ і „Конь бяжыць зямля дрыжыць“. Апрача таго напісаны для аднаго голасу з акампанімэнтам раяля: „Зазьвінела пчолачка“, „Доля“, „Бяда“, „Вясьнянка“, „Купалінка“, „Калыханка“ і „Зязюля“ і адна скрыпкавая пьеса на тэму калядкі з Пружанскага павету. Чатыры апошніх песьні напісаны таксама для голасу з акампанімэнтам аркестры і перакладзены на ангельскую мову. У гэтых песьнях народная мэлёдыя захавана для голасу бяз зьменаў, а ўжо акампанімэнтам Грэчанінаў рысуе свае безпадобныя музычныя ўзоры. Такое тонкае мастацтва, напрыклад, у перадачы настрояў маладой беларускай кабеты, якая пяе: „Дубравачка, ой зялёная, ў тваім шуме я заблудзіла“, што здаецца кампазытар, падслухаўшы, пераклаў на музыку свайго акампанімэнту адвечны шум нашае Белавежы. Безумоўна, гэтыя творы трэба прызнаць шэдэўрамі ў беларускай музычнай літэратуры.

Усё пералічанае далёка ня поўны сьпіс таго, што з беларускіх песень апрацавана Грэчанінавым для хору і солё, бо частка яго працаў знаходзіцца і выдана ў Менску аб якіх, на жаль, дадзеных пад рукамі ня маем.

Значэньне гэтых музычных твораў Грэчанінава для беларусаў можна параўнаць хіба з тым значэньнем, якое мелі ў свой час у літэратуры Тургенеўскія „Запіскі охотніка“. Як Тургенеў за часоў паншчыны паказаў усяму сьвету, што прыгонны селянін, якога не лічылі нават чалавекам, нічым ня горшы, а часам здальнейшы і разумнейшы за свайго адукаванага пана, так і Грэчанінаў паказвае ўсяму сьвету, што беларуская народная творчасьць ня толькі не уступае творчасьці палітычна сільнейшых, а наадварот часта перавышае іх.

Праўда, і да Грэчанінава выдатныя кампазытары чэрпалі натхненьне і шырака карысталіся з крыніц беларускіх народных мэлёдый для сваіх твораў (Глінка, Монюшко); іншыя бралі беларускія народныя тэмы, працавалі над імі, а пасьля ставілі на іх чужое, зусім не беларускае кляймо. Карловіч, калі напісаў сваю рапсодыю на тэму беларускіх жніўных песень, чамусь-ці назваў яе: „Rapsodja litewska“; некалькі беларускіх песень з Віленшчыны, згарманізаваных праф. Ст. Казуро, выданы як польскія народныя песьні *). У Грэчанінава-ж ёсьць яшчэ тая заслуга, што на беларускіх народных мэлёдыях ён заўсёды астаўляе чыста беларускі атпячатак ня толькі па зьместу, а нават і па назову, незалежна ад таго ў якой мове і дзе яго твор выданы.

Цяпер паслухаем, што кажа сам компазытар аб творчасьці нашага народу.

Намі послана 25 мэлёдыяў з розных паветаў Зах. Беларусі з просьбаю, што магчыма, апрацаваць. У адказ на наша пісьмо Александар Тіхановіч піша: „Беларуская народная творчасьць мяне захапляла і захапляе“. „Многія песьні вашае запісі мне надта падабаюцца, і я ахвотна буду над імі працаваць“. У другім пісьме зноў кажа: „Песьні цудоўныя, з іх адну я скарыстаў дзеля напісаньня скрыпкавае пьесы, якая магчыма будзе называцца: „Souvenir de la Russie Blanche“ („Дар Белай Русі“). З ліку тых жа мэлёдый ужо апрацавана для мяшанага хору песьня: „Конь бяжыць, зямля дрыжыць“, запісаная ў В.-Грынках, Ваўкавыскага павету сябрам

*) St. Kazuro, Polska pieśń ludowa, zesz. 8, Ziemia Wileńska, выд. Гэбэтнэра і Вольфа ў Варшаве.

маяйсцовага г-ка А. Сахарчуком. Гэтая песьня, любезна прысланая кампазытарам разам з фатаграфічнай картачкай для „Летапісу“, падаецца ў гэтым нумару для карыстаньня нашымі вясковымі народнымі хорамі.

Працы А. Т. Грэчанінава, міравой славы кампазытара, над беларускімі народнымі песьнямі зьяўляюцца багатым дарам у скарбніцу ня толькі беларускай культуры. Для нас-жа беларусаў яны зьяўляюцца асабліва цэннымі, бо падымаюць творчасьць нашага народу да эўрапейскага культурнага ўзроўня, і тым самым даюць каплю сьвежых сілаў нашым культурным працаўнікам змагацца за тое,

„Каб пры песельным звоне народ акрылеў,
Зарухаўся шчасьцем, свабодай“...

---

**П. КІЗЕВІЧ.**

# Курсы для дарослых*).

Беларускі народ дагэтуль знаходзіцца яшчэ на невысокім узроўнкультурнага жыцьця. Рэч зразумелая. Краіна наша, адсталая тэхнічна, эканамічна і палітычна, ня можа даць высокіх культурных здабыткаў нашаму народу. Калі паглядзець пад саламяную страху селяніна, дык вельмі часта заўважым, што ён, асабліва зімой, жывець разам са сваім набыткам: куры, парасяты, цяляты, ягняты, яго сужыцелі. Голад таксама зьяўляецца вельмі частым гасьцём беззямельнага або малазямельнага. А пры такіх неспраможных абставінах, ці-ж можа быць вольны прыплыў культуры, ці зможа яе прамень завітаць у гэты цемны куток? Але для нас беларусаў трагізм нашага палажэньня дапаўняецця яшчэ, кажучы праўду, поўнай адсутнасьцю школы ў роднай увассанай з малаком маткі беларускай мовеі што вельмі ўзмацоўвае той мур, які стаіць на шляху да здабыцьця таго, культурнага багацьця, якога магчыма было-бы засягнуць у сяняшніх абставінах.

Польскія народныя школы, па большасьці 2 — 4 гадовыя, дзе дзіця змушана рабіць першыя крокі ў малазразумелай для яго мове, ня спрыяюць яго нармальнаму умысловаму разьвіцьцю. Праграма заўсёды застаецца неапанаванай. Для кожнага, азнаёмленага з пэдагогікай, факт гэты зьяўляецца зразумелым, і гэта прызнаюць часта тыя, хто пашырае польскую школу сярод беларускага насяленьня. Сярэдняя школа, калі ня лічыць т.зв. 2 Беларускіх Філіяў польскіх гімназіяў, зусім адсутнічае. А пры сяняшнім стане селяніну паслаць сваё дзіця ў гімназію, або сэмінарыю гэта зруйнаваць, або падкапаць сваю гаспадарку, каб магчы утрымаць яго, аплаціць за навуку ды купіць падручнікі.

Вось адкуль страшэнная культурная адсталасьць, вось той сумны факт, што цемра — гэты адвечны вораг людзкасьці — зьвівае сабе гняздо ў цёмнай хаце селяніна, закрываючы яму шлях да лепшай будучыні, закоўваючы што раз мацней у ланцугі цяперашніх варункаў.

Ці ёсьць выхад з такога палажэньня? Выхад ня толькі ёсьць, але беларускі народ на чале з Т. Б. Ш. вядзе ўжо, амаль па ўсёй Заходняй

---

*) Аўтар гэтае стацьці, сябра Гал. Управы Т. Б. Ш. быў арганізатарам і кіраўнком курсаў для дарослых у Беласточчыне.

Беларусі, жывую культурна-асьветную працу ў розных формах. Побач з дамаганьнем школы ў роднай мове, сваімі ўласнымі рукамі стаў браць для сябе тое з навукі, што можа. Вёска і места загаварылі аб кніжцы, аб газэце, аб спэктаклях, аб лекцыях. Гарэлка-ж і табак адсунуты ў мінулае гісторыі. Ня гледзячы на перашкоды, на той цярністы шлях жыцьця і працы, народ наш на чале з Т. Б. Ш. ідзе бадзёра да вызначанае мэты.

Так зімою 1932-33 г. Беластоцкаю Акружнаю Упр. Т.Б.Ш. быў наладжаны цэлы цыкль лекцыяў па ўсей Акрузе; кожны, амаль, гурток наладзіў некалькі спэктакляў у сваёй ці суседняй вёсцы; былі арганізаваны пры гуртках Т. Б. Ш. курсы для дарослых ды шырока праведзены заняткі з неграматнымі і малаграматнымі. Дзеля прыкладу возьмем некалькі гурткоў ды паглядзімо, якія там праароблены працы.

**Пяшчаніцкі гурток.** Зарганізаваны курсы для дарослых, якія складаліся з 2-х груп: няпісьменных ды малапісьменных I група. Выкладалася беларуск. мова: навучыліся чытаць ды пісаць; з арытмэтыкі — усе чатыры дзеі ў межах 100. II гр. Выкладалася беларуск. мова: граматыка, правапіс. Арытмэтыкі—4 дзеі ў межах 1000, гісторыя ды геаграфія Беларусі. Працавала 20 — 25 ч.

**Дзернякоўскі гурток.** Курсы для дарослых, — адна група малапісьменных, выкладалася беларуск. мова, арытмэтыка і гісторыя. Працавала 20 ч. Апрача курсаў, дзякуючы энэргіі старшыні гуртка грам. Я. Карповічу былі вельмі часта паказваны сьветляныя абразы навуковага зьместу. Насьвятленьне захапляла ўсіх ад старага да малага, дзеля чаго прыходзілася паўтараць сэансы па некалькі разоў.

**Залуцкі гурток.** Курсы для дарослых малапісьменных, на якіх вакладалася беларуская мова і арытмэтыка.

**Навасёльскі гурток.** Курсы для дарослых складаліся з 2-х груп, пісьменных і малапісьменных. Заняткі праходзілі вельмі жвава. У 2-й групе працавала 3 дзяўчыны, а ўсяго 15 чалавек. Выкладалася беларуская мова, гісторыя і геаграфія.

**Гарадоцкі гурток.** Утварыліся курсы для дарослых малапісьменных, на якіх выкладалася беларуская мова і гісторыя.

**Белявіцкі гурток.** Утварыліся курсы для дарослых, якія складаліся з 2-х груп, няпісьменных і малапісьменных. Выкладалася беларуская мова, арытмэтыка, гэомэтрыя, гісторыя, ды географія Беларусі. Трэба адзначыць, што тут вельмі многа працы палажыў б. вуч., грам. Лебядзінскі.

**Беластоцкі гурток.** Пры гуртку былі зарганізаваны курсы для дарослых малапісьменных, выкладалася беларуская мова, гісторыя беларуск. літэратуры, гісторыя, географія, матэматыка і прыродазнаўства.

Вось у некалькіх словах тое, што рабілася ды робіцца пад кіраўніцтвам ды кантролем Т. Б. Ш. Тут паданы факты толькі аб некатарых гуртках, але і гэтыя некалькі фактаў вельмі вымоўна сьведчаць аб тым уздыме і зацікаўленьні самаадукацыяй у народных масах. Недалёка тая хвіліна, калі і наша старонка падымецца, вырвецца з ланцугоў цемры. Дык, сябры, да самаадукацыі, памагай пісьменны няпісьменнаму! Запаўняйце рады Т. Б. Ш!

Ф. СТЭЦКЕВІЧ.

# Міжнародная мова Эспэранто.

I.

Мова, як ведама, служыць сьродкам паразуменьня людзей паміж сабой. Тым большае значэньне мовы, чым большы лік людзей можа гэтай мовай карыстацца.

Пры істнаваньні народаў з рознымі мовамі, дзеля зносінаў паміж гэтымі народамі прыходзіцца вывучаць чужыя мовы. Звычайна народы дужэйшыя, накідаюць сваю мову слабейшым. Такім чынам мова народа-пераможцы робіцца мовай як бы міжнароднай для большага ці меншага кругу народаў. Прыкладам такіх моваў міжнародных у старажытнасьці могуць служыць мовы грэцкая і лацінская. Што датычыць апошняй, то яна і пасьля ўпадку Рымскай імпэрыі зрабіла вялікі ўплыў на народы перамогшыя рымлян, дзякуючы высокай культурнай вартасьці навуковага і прыгожага пісьменства ў гэтай мове. Лацінская мова, як мова міжнародная вучоных, у якой пісалі свае творы вучоныя розных нацыянальнасьцяў, ператрывала блізка паўтары тысячы гадоў пасьля ўпадку Рыму і спатыкалася ў навуковай літэратуры яшчэ ў прошлым стагодзьдзі.

У навейшыя часы і цяпер частковы характар міжнароднасьці мелі і маюць мовы: французская, нямецкая і ангельская.

Аднак мовы гэтыя ахапляюць далёка ня ўсе народы і пераважна пэўныя галіны жыцьця. Французская мова была да апошніх часоў мовай дыплёматыі, нямецкая і ангельская пашырана ў зносінах гандлёвых. Знаёмства з гэтымі мовамі патрэбна людзям займаючымся навуковай працай.

Пры цяперашніх гаспадарчых умовах, ставячых ува ўзаемную залежнасьць народы ўсяго сьвету — патрэба гаспадарчых і культурных зносінаў, а таму і патрэба міжнароднай мовы адчуваецца мацней, прытым ня толькі вучонымі ці дыплёматамі, але і шырэйшымі слаямі грамадзянства. Прытым міжнародная мова павінна ісьці на службу не выключна вышэйшых колаў грамадзянства, але і шырокіх народных масаў.

Дзеля прыняцьця аднэй мовы, як міжнароднай, ёсьць наступныя падставы:

1. Супольная мова памагае знаёмству і збліженьню паміж народамі, аслабляючы варожасьць і магчымасьць войнаў.

2. З пункту гледжаньня культурнага, адзіная міжнародная мова прадстаўляе вялікую экономію. Літэратурныя творы, маючыя вялікшую вартасьць, тлумачацца на іншыя мовы: большую экономію прадстаўляе пералажыць яго на адну мову, чым на колькі, колькінаццаць, ці колькі дзесяткаў іншых. У выпадках, калі няма перакладаў на тыя ці іншыя мовы, прыходзіцца вывучаць мову, на якой гэты твор напісаны. Таму ў школах выкладаецца колькі чужых моваў, з больш багатай літэратурай.

Думка аб прыняцьці аднэй мовы, як міжнароднай, паколькі мы маем дадзеныя (Дрэзэн), налічвае больш трохсот гадоў. Першая прапанова ў агульнай форме адносіцца да 1603 года і належыць да Алекса Тома ў Англіі. Акрэсьлены праект дадзены ўжо французскім вучоным Дэкартам у 1629 годзе. З таго часу гэтых больш-менш канкрэтных прапановаў

і праэктаў штучных моваў, налічваецца да 380, ня кажучы аб прапанове прыняць, як мову міжнародную, адну з існуючых натуральных моваў, прыкладам ангельскую, або мову лацінскую.

Гэтыя праекты йшлі ў наступных галоўных напрамках: паразуменьне сыгналамі або жэстамі (целарухамі), мовы са словамі зусім выдуманымі па нейкаму пляну, удасканаленьне аднэй з існуючых натуральных моваў, комбінацыя з двух або некалькіх натуральных моваў, нова-лацінская, або нова-раманская мова, інтэрнацыянальная сыстэма (эспэранто), аб якой будзе сказана ніжэй больш падрабязна і ўрэшце розныя пераробкі, быццам удасканаленьні мовы эспэранто, якія па свайму языковаму і граматычнаму матар'ялу на 10 — 15 проц. розьняцца ад эспэранто.

Да апошняга часу, калі ўжо „эспэранто“ здабыла шырокае прызнаньне, сярод староньнікаў адзінай міжнароднай мовы йшлі спрэчкі, якія ня спыніліся і дагэтуль, аб тым, ці такой мовай павінна быць мова натуральная, ці штучная.

Перадусім трэба заўважыць, што істнуючыя натуральныя мовы ня ёсьць прыродныя для чалавека — дзіця ня родзіцца з мовай: калі малое дзіцё аддаць у сям'ю якой - хаця нацыянальнасьці, ангельскую, францускую ці іншую, то гэтая мова будзе для яго роднай.

Па другое, ня ўсе рэчы натуральныя, ёсьць лепшыя за штучныя: пэўне - ж дамы ёсьць лепшыя за пячуры, ў якіх жылі першабытныя людзі, чыгункі ёсьць лепшы сьродак комунікацыі, як свае ці нават конскія ногі.

Прыняцьце за міжнародную аднэй з істнуючых моваў дае гэтаму народу вялікія выгады і прывілеі перад іншымі народамі. Гэтая акалічнасьць а таксама і нацыянальны гонар паасобных народаў не даюць надзеі дабіцца агульнай згоды на прыняцьце мовы аднаго народу, як міжнароднай.

Урэшце само жыцьцё — ўзрост ліку эспэрантыстаў і буйнае разьвіцьце літэратуры ў мове эспэранто — дае адказ на карысьць мовы штучнай.

З усіх праектаў штучных моваў больш значны лік староньнікаў мелі наступныя мовы: В о л я п ю к, апублікаваны ў 1879 годзе, са словамі прыдуманымі і зусім чужымі для існуючых моваў. Ён меў значнае пашырэньне перад эспэранто ў г. г. 1880 — 1890. Пасьля зьяўленьня эспэранто шмат староньнікаў яго перайшло да эспэранто і наагул гэтая мова заняпала зусім.

Пасьля паяўленьня эспэранто яго пераробка, апублікаваная ў 1908 г. пад назовам „І д о“, аўтарам якой ёсьць былы эспэрантысты Бофрон, адкалоўшы ад эспэранто да 10 проц. тагачасных яго староньнікаў, згуртавала да двух тысячаў чалавек. „І д о“ істнуе да гэтага часу, мае нават сваю нязначную літэратуру, але шмат яго староньнікаў у апошні час пераходзіць да новай сыстэмы О к ц ы д э н т а л ь (1922 г.), маючай большую схожасьць з заходня - эўропэйскімі мовамі.

Мова І н т э р л і н г в а, апублікаваная ў 1903 годзе і з'арганізаваўшая сваіх староньнікаў у 1909 годзе ёсьць абноўленая лацінская мова, маючая 200 — 300 староньнікаў сярод вучоных, лацiністаў, каталіцкіх ксяндзоў і інш.; дзьве трэткі іх жыве ў Італіі.

Мова Э с п э р а н т о мае багатую літэратуру, як прыгожую так і навуковую, перакладную і арыгінальную. Староньнікі яе лічацца на соткі тысячаў, але яна вымагае і заслугоўвае асобнага больш падрабязнага разгляду.

(*Працяг будзе*).

Д-р М. МАРЦІНЧЫК.

# Сухоты і барацьба з імі.

*(Заканчэньне).*

**4. Колькі ахвяр забіраюць сухоты.** 97% усіх людзей заражаны сухотамі. А вось ніжэй дадзеныя, ў якой калейнасьці заражаецца чалавек сухотамі пачынаючы ад калыскі:

КОЛЬКІ ЗАРАЖАНА СУХОТАМІ З КОЖНЫХ 100 ЧАЛАВЕК.

| Век: | Колькасьць | Век: | Колькасьць |
|---|---|---|---|
| да 3-х месяцаў жыцьця | 3—4 | ад 4—6 гадоў | 51 |
| ад 4—6 месяцаў жыцьця | 7 | „ 6—10 „ | 65 |
| „ 7—12 „ „ | 17—18 | „ 10—14 „ | 80 |
| „ 1—2 гадоў | 24 | узрослыя | 97 |
| „ 2—4 „ | 39 | | |

З пасярод усіх хворых у веку ад 20 да 40 гадоў блізка полова памірае на сухоты. Ад сухотаў памірае ў 4 разы больш, чым ад усіх іншых заразных хвароб разам узятых. Восьмая частка ўсіх людзей паміраюць ад сухотаў. За апошнюю імпэрыялістычную вайну забіта 1.700.000 чалавек, а за гэты час ад сухотаў памёрла 2.000.000 чалавек. За час халернай эпідэміі ў 1920 годзе памёрла ад халеры 100.000, а ад сухотаў за гэты-жа час памёрла 500.000 чалавек. На сухоты хварэюць каля 10 гадоў, хворых-жа ў Польшчы 1.000.000; дык калі прыняць дзенны заробак за 1 злоты, то толькі дзякуючы непрацаздольнасьці сухотнікаў дзяржава траціць каля 40.000.000 злотых у год. Што год у Польшчы памірае ад сухотаў 100.000 чалавек, што дзень — 300 чалавек.

**5. Як змагацца з сухотамі.** Маючы паняцьце аб сухотах і ведаючы, як яны разьвіваюцца ня трудна зразумець, як з імі змагацца.

Трэба высьцярагацца ўсяго таго, што аслабляе арганізм, бо ў аслабленым арганізме лёгка перамагаюць сухоты, і чалавек гіне. Бязсонныя ночы, вечарынкі ў табачным дыме — пасобнікі сухотаў. Зімою і летам трэба добра праветрываць памяшчэньне і даваць туды доступ сонцу, бо сьвежае і чыстае паветра ды сонца найбольшы вораг сухотаў. Не паднімаць пылу ў хаце, бо ў пылу ёсьць сухотная зараза, якую мы ўдыхаем разам з пылам і заражаемся. Не пляваць на падлогу ці зямлю, а ў спляўвачку. Ня курыць асабліва ў маладым веку. Ня піць сьпірытусавых напояў і г. д.

Гэта павінен рабіць кожны грамадзянін.

Але сухоты настолькі страшны вораг людзкасьці, што для барацьбы з імі патрэбна акцыя грамадзкая і дзяржаўная. Трэба палепшыць матэрыяльны і культурны стан грамадзянства. Трэба стварыць гігіенічныя умовы працы, а таксама здаровы і культурны адпачынак. Пабудаваць санаторыі, дзе-б можна было ізаляваць (аддзяліць ад здаровых) і лячыць цяжка хворых на сухоты; стварыць дыспансары[5]), дзе маглі-б лячыцца лягчэй хворыя сухотнікі. Срэдства на гэта павінны даць грамадзянства і дзяржава.

[5]) Дыспансар — (франц.) амбуляторыя, якая мае задачай ня толькі лячыць хворых, але і папераджаць хваробы, у першую чаргу сацыяльныя. Д. сам шукае хворага, якому нясе сацыяльную помач: дабавачнае кармленьне, асобнае начэньне, бялізну, ложак, кішанковыя сьплявачкі, перавод хворага на болей лёгкую працу і г. д.

Каб зьвярнуць асаблівую увагу на неабходнасьць грамадзкай і дзяржаўнай помачы ў барацьбе з сухотамі, падамо тут некалькі прыкладаў, як вядзецца барацьба з сухотамі і іншымі заразьлівымі хваробомі ў нас, і некалькі параўнаньняў з іншымі краінамі.

Паводле дохтара Яз. Поляка[6]), у 1926 годзе ў Польшчы на барацьбу з заразьлівымі хваробамі быдла Дзяржава адпусьціла 6.000.000 зл. на барацьбу-ж з заразьлівымі хваробамі людзей адпушчана толькі 1.000.000 зл Санітарныя выдаткі польскіх самаўрадаў у 1924 г. раўняліся 165.439.585 злотых, — ці ў сярэднім у год на аднаго грамадзяніна 6 зл. 24 гр., гэта значыць у 27 разоў меньш, чым у Англіі. Найбольш пакрыўджана тут вёска, бо калі на гараджаніна траціцца на санітарныя выдаткі ў сярэднім у год 16 зл. 45 гр., то на жыхара вёскі выдаецца ў год толькі 50 гр.

Заходняя Беларусь найбольш занядбана. Вось дадзеныя, што паказваюць, колькі якое ваяводзтва выдае на грамадзкае здароўе на аднаго жыхара ў год:

| | | |
|---|---|---|
| Пазнанскае Ваяводзтва . . . . | 18 зл. | 43 гр. |
| Віленскае „ . . . . | 3 „ | 97 „ |
| Палескае „ . . . . | 1 „ | 71 „ |
| Наваградзкае „ . . . . | 1 „ | 10 „ |

Швайцарыя маючая 4.000.000 жыхараў у год выдае на барацьбу з сухотамі 12 мільёнаў шв. франкаў, ці на польскія грошы 20 мільёнаў злотых. Польшча маючая 30 мільёнаў жыхараў выдае толькі 350.000 зл.

# Брацьцям - пісьменьнікам.

Наша прыгожая краіна багата паэтамі - самародкамі. Ува ўсіх канцох яе, — на косьніках - загонах, у схіляных хатках, на тартаках і фальварках і на грудзёх сівога дзеда - Нёмна, — жывуць і працуюць яны, слухаючы гоман высокіх хвоек, прыбраўшых пяшчаныя ўзгоркі цудоўнае нашае краіны.

Яны не кранулі вышэйшае веды.

Зьвязаныя з цяжкаю працаю, яны пяюць свайму народу сумныя песьні мінуўшчыны і сучаснасьці і адначасна жывяць сьветлыя надзеі на будучыню. Народ наш слухае і разумее іх.

---

І вось мы на гэтым мейсцы зьвяртаемся да Вас, брацьця - пісьменьнікі, стаць цясьней навокал „Летапісу“, які павінен будзе нумар за нумаром даваць нашым вёскам, фабрыкам і фальваркам духовую страву — новую песьню і мастацкія творы нашых артыстаў.

Стварыўшы жаданы круг, згуртаваўшысь каля „Летапісу“ нам лягчэй будзе правясьці ў жыцьцё нашы лятуценьні, нам пад сілу будзе з пажоўклае паперы крывыя радкі, але сьвежыя думкі, перадаць роўнымі літэрамі ў простай роднай мове нашаму народу.

Мы думаем наш зразумелы заклік знойдзе водгук, і Вы, малодыя пісьменьнікі, не адмовіцесь ад жывой працы ў адбудове літэратурна-мастацкага аддзелу нашага „Летапісу“. Толькі тут Вы знойдзеце патрэбную глебу для свайго ўласнага росту і зможаце прычыніцца да задаваленьня духовых патрэбаў нашага сярмяжнага люду

[6]) Рэфэрат праф. Ст. Ўладычкі аб сухотах, выд. Віленскага процісухотнага Т-ва, Вільня, 1927.



Драматычная і харавая сэкцыя В.-Грынкаўскага г-ка. Сядзяць: трэйці зьлева направа — кіраўнік драм. сэкцыі Андрэй Трахімік, пяты — кіраўнік хору Анатоль Сахарчук; ляжаць: зьлева — старшыня г-ка Янка Сахарчук, справа — сэкрэтар Язэп Трахімік, каля сэкрэтара сядзіць заступнік старшіні — Клеманс Варонко.

# Хроніка Т-ва Бел. Школы.

## ВАЎКАВЫСКІ ПАВЕТ.

### Справаздача з працы Вяліка-Грынкаўскага г-ка Т-ва Бел. Школы

* * * 23-IV г.г. гуртком была зладжана вечарына, праграма якое складаецца з пьесы Тагабочнага „Змагары за ідэю“ і выступленьня хору. Ня гледзячы на сучасны цяжкі крызыс, саля была перапоўнена глядзельнікамі. Усе з надзвычайнай цікавасьцю прыглядаліся да ігры артыстаў і прагавіта лавілі кожнае слова пьесы, так яскрава малюючай трагэдыю жыцьця шчырых і непадкупных змагароў за праўду. Пасьля хор адсьпяваў 4-ы песьні: „Родны край“, „Зайшло ўжо сонейка“, „Ці ня быстрая рэчка“ і гымн „Ад веку мы спалі“, які публіка выслухала стоячы.

Наагул ўся праграма вечарыны зрабіла на глядзельнікаў вельмі прыемнае ўражаньне.

4-VII г. г. была пастаўлена пьеса „Сурдут і сярмяга“. Меўся таксама выступаць хор, але на гэты раз чамусь п. Стараста ў дазволе нічога аб песьнях не зазначыў, у выніку чаго паліцыя сьпяваць не пазволіла.

9-VII г. г. была зроблена паста-

ноўка пьесы Ф. Аляхновіча „Пан Міністар“ і Родзевіча „Пасланец“. Пасьля спэктаклю выступаў хор.

27-VIII г. г. была пастаўлена камэдыя Ф. Аляхновіча „Шчасьлівы муж“. На другі дзень гэта зн. 28-VIII гэтая сама камэдыя была адыграна намі у в. Дабраволі, дзе моладзь пазбаўлена магчымасьці ладзіць спэктаклі з прычыны завешаньня г-ка.

Дзякуючы добраму выкананьню артыстамі сваіх роляў пьеса прайшла вельмі ўдала, выклікаючы мамэнтамі у глядзельнікаў цэлыя буры сьмеху.

Словам, як тэатральная так і харавая сэкцыі нашага г-ка (апошняя пад кіраўніцтвам А. Сахарчука) стала працуюць, не шкадуючы сілаў дзеля пашырэньня роднае асьветы і культуры. Шкода толькі, што шмат яшчэ ёсьць у нашай вёсцы людзей, якія глядзяць на нашую працу, як на забаўку, ня хочучы зразумець запраўднага яе значэньня.

Вельмі пажаданым было-б, каб прыехаў да нас грам. Шырма або хто іншы і прачытаў лекцыю на навукова-папулярную тэму.

Зьвяртаемся на гэтым мейсцы з гарачым заклікам да ўсіх тых, хто да гэтага часу стаяў ад нас на ўбочу, асабліва да старэйшага грамадзянства нашае вёскі, дапамагчы нам у нашай працы будаваньня сьветлай будучыні для нашае дарагое Бацькаўшчыны — Беларусі.

* * * **У бліжэйшым часе В.-Грынкаўскі гурток сьвяткуе 5-я угодкі сваей працы.**

* * * **Забарона:** Дня 3-га жніўня Гал. Управа паслала заявы п. Ваўкавыскаму Старасьце на рэгістрацыю г-ка ў в. Грыневічы, Ізабэлінскай вол. 25 жніўня п. Стараста прыслаў адмоўны адказ таму, што закладчыкі азначанага г-ка, па думцы п. Старасты, не даюць належнай гваранцыі, што праца будзе вясьціць у рамках акрэсьляных статутам, а наадварот заходзіць прыпушчэньне, што дзейнасьць г-ка будзе шкодзіць бясьпечнасьці і публічнаму спакою.

На гэтую пастанову Гал. Упр. злажыла скаргу ў Беластоцкае Ваяводзтва.

* * * 27 жніўня тэатральная сэкцыя **Гарбачоўскага гуртка** ставіла дзьве пьесы: „На вёсцы“, Фр. Аляхновіча і „Боты“. Даход ад прадажы білетаў 50 зл. 75 гр.

„Вельмі шкода — піша Управа Гуртка, — што наша памешканьне замалое; некаторым глядзельнікам прышлося стаяць на дварэ пад вокнамі без білетаў. Ўражаньне ў публікі было вялікае ад выкананьня роляў артыстамі. Наша тэатральная сэкцыя, што раз болей здабывае сабе папулярнасьць сярод грамадзянства. На прадстаўленьні было многа жаўнераў з лётнічай каманды; водзывы старшых вайсковых чыноў аб ігры нашых артыстаў: „Зусім, як у Варшаве, толькі бедная дэкарацыя“.

Гарбачоўскі гурток павялічыўся 3-мя новымі сябрамі.

* * * **Трагічны выпадак.** Загадчык бібліят.-чыт. у м. Сьвіслачы Юрахно Аляксандар ехаў са снапамі каля ст. Сьвіслач і на пераезьдзе праз чыгунку папаў пад цягнік. Юрахно А. тут-жа на мейсцы быў забіты. Галоўная Управа выражае свой глыбокі жаль і спачуцьцё, як сямьі трагічна загінуўшага нашага супрацоўніка, так і Сьвіслацкаму гуртку.

* * * **Агульны Сход Сьвіслацкага г-ка** адбыўся 17-IX, на якім выбраны новы загадчык бібл.-чыт. Міхась Бабовік. На гэтым-жа сходзе прынята пастанова у найхутчэйшым часе зладзіць спэктакль.

* * * **Разьвязаньне.** Ваўкавыскі Стараста разьвязаў завешаныя г-кі ў *Раманаўцах*, Сьвіслацкай вол., *Нязбодзічах*, *Добрай Волі* і *Ліхасельцах*.

# БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ.

* * * **Паседжаньне Беластоцкай Акружнай Управы** з удзелам сябраў Галоўнай Управы Стэцкевіча і Шырмы і прадстаўнікоў правінцыі адбылася 20 жніўня г. г.

Галоўныя пытаньні абгавораныя на паседжаньні — гэта падгатоўка да Агульнага Сходу, арганізацыя Ваўкавыскай Акружнай Управы і закладаньне новых гурткоў, як пільнейшыя заданьні і неабходныя умовы падгатаўляючыя Агульны Сход.

Грам. Шырмай была адзначана дадатняя праца гурткоў Ваўкавыскага павету, падтрымліваючых цесную сувязь з Галоўнай Управай, інфармуючых яе і даючых павучальны матар'ял для сябраў Т-ва праз „Летапіс" і грашовую дапамогу на апошні.

Аб працы Беластоцкай Акружнай Управы грам. Лукашык адзначыў дадатнія яе бакі, як ладжаньне лекцыяў, вячэрніх заняткаў, курсаў, спэктакляў і вечарын, так і ад'емныя — гэта тое, што ўсю працу вядуць фактычна два сябры Акружнае Управы, пражываючыя у Беластоку.

Прыняты пастановы аб дамаганьні урадавых беларускіх школ і закладаньні груп самаадукацыі на вёсках. Шмат увагі было пасьвячона справе падтрыманьня воргану Т-ва „Летапісу". Падкрэсьлена неабходнасьць, як жывога супрацоўніцтва якнайшырэйшых колаў сябраў Т-ва, так у сэнсе інфармацыі, як і літэратурнай творчасьці. Так-жа пастаноўлена матэр'яльна падтрымаць часопісь падпіскай і ахвярамі. На сходзе было сабрана прысутнымі на карысьць „Летапісу" 8 зл. 40 гр.

## Гарадоцкі гурток Т-ва.

* * * Тэатральная сэкцыя Гарадоцкага гуртка Т.Б.Ш. 8-І 1933 г. у м. Гарадку ставіла пьесу ў 4-х дзеях з савецкага жыцьця: „Жаніх з Піцера", У. Муйжэля. Спэктакль адбыўся ў перапоўненай публікай салі Прафэсыянальнага Саюзу Тэкстыльшчыкаў і меў заслужаны пасьпех. Пасьля спэктаклю адбыліся танцы пад гукі струннае аркестры гуртка.

11-І згулялі двуактавую пьесу Ф. Аляхновіча: „На вёсцы" і аднаактавы абразок з жыцьця Беласточчыны — „Першыя ластаўкі": Рушчанца. Пасьля адбыліся дэклямацыі вершаў: „Мы ходзім" і „Да працы" - Якуба Коласа; „Вера Беларуса" — Цёткі; „Дружна брацьця" — Г. Леўчыка і „Народ, Беларускі народ" — Максіма Багдановіча. На заканчэньне танцы пад гукі струннае аркестры гуртка. Публікі шмат — зацікаўленьне агульнае.

29-І адыграна: 1) двуактавая драма з жыцьця расейскіх рэвалюцыянэраў — „Аднойчы вечарам" — Ч. Лісенкі; 2) дэклямаваліся вершы: „Песьня нявольніка", „Маці Беларусі", „Хто сказаў", „Ты мой брат", „Цару неба і зямлі" і „Волат". На заканчэньне адбыліся танцы. Публікі многа.

У месяцы лютым і сакавіку б.г. у працах Гарадоцкага гуртка Т-ва наступае прымусовае спыненьне. У выніку заходаў непрыхільных да Т-ва элемэнтаў — гурток змушаны быў прыпыніць культурна-асьветную працу. Справу пагоршвае судовая эксмісія гуртка з займанага ім памешканьня. І толькі, калі дружным высілкам агулу сябраў Т-ва і сымпатыкаў у м. Гарадку наймаецца суадказнае памешканьне пад Народны Дом з адпаведнай пад тэатральныя прадстаўленьні саляй — праца шпарка крапчэе і так:

Дня 17-IV 33 г. у уласным памешканьні Гарадоцкі гурток ладзіць спэктакль-вечарыну. У праграме: 1) „Калісь"—драма Ф. Аляхновіча; 2) Дэклямацыі вершаў: — „Волат", „З народу мы", „Край мой

родны“, „Кліч“, „Цяжка і горка мы жылі“ і 3) Хор — прапяяў шэраг песень. На заканчэньне танцавальны вечар. Публікі шмат.

30 красавіка ў салі Беларускага Дому тэатральная сэкцыя ставіць пьесу ў 2-х дзеях з савецкага жыцьця: „Несьвядомы элемэнт“— Якуба Коласа. Тэатральная апрацоўка пьесы Янкі Хвораста. Пасьля прадстаўленьня дэклямацыя вершаў: „Кліч“, „З народам мы“ і выступленьне хору прапяяўшага песьні: „Разсьвет“, „Было ў бацькі тры сыны“, „Пісар гусі ганяе“, „Зялёны луг“ і польскую „Przylecieli Sokołowie“. На заканчэньне танцы. Публікі, як заўсёды поўна.

У нядзелю дня 2 ліпеня 1933 г. згулялі дзьве аднаактавыя пьесы: 1) „Гурток“ — камэдыя Янкі Башкіра і 2) „Як яны жаніліся“—У. Валодзьскага. На заканчэньне дэклямацыі вершаў і танцы.

На спэктаклях Гарадоцкага г-ка большасьць публікі складаюць рабочыя тэкстыльных фабрык і тартаку. Гурток стараецца датарнаваць рэпэртуар пастановак да вымогаў работніцкае клясы.

## Праца тэатральнае сэкцыі Тапільскага гуртка Т. Б. Ш.

* * * 7-І 1933 г. у Народным Доме Т-ва Беларускае Школы ў вёсцы Тапілец мясцовы гурток Т-ва ладзіў спэктакль-вечарыну. Згулялі трохактавую пьесу—„Страхі жыцьця“ — Ф. Аляхновіча. Глядзельнікаў поўная саля. Пьеса выканана мастацкі.

29-І г-к ладзіў спэктакль-вечарыну ў в. Хвасты, Харашчанскае гміны, Беластоцкага пав. Не зважаючы на наскокі мясцовае „стражы огнёвэй“, зладзіўшай „конкурэнцыйную“ танцульку, нашы артысты мелі ў сабраўшайся публікі вялікі пасьпех. Усе пакінулі спэктакль-вечарыну — здаволеннымі.

19-ІІ у Народным Доме Т-ва ў в. Тапілец згулялі: пьесу Ф. Аляхновіча „Чорт і баба“ і „Пасланец“, Л. Родзевіча. Пасьля прадстаўленьня адбыліся танцы.

25-ІІ прадстаўлена была пьеса ў 3-х актах Крапівніцкага: „Пашыліся ў дурні“. Пасьля прадстаўленьня танцы.

8-ІV згулялі пьесу ў 3-х актах: „Птушка шчасьця“, Ф. Аляхновіча. Публікі сабралася цэлая ваколіца, так што саля Народнага Дому не змагла памясьціць усіх жадаўшых быць на прадстаўленьні. Пьеса выканана в. мастацка пры адумысловайд экарацыі і сьветлавых эфэктах.

16-IV. На агульнае жаданьне публікі тэатральная сэкцыя Беластоцкага гуртка згуляла паўторна пьесу Ф. Аляхновічя „Птушка шчасьця“. Пасьля прадстаўленьня адбыліся танцы.

4-V адбыўся спэктакль-вечарына ў вёсцы Бацюты, Харашчанскае волясьці. Згулялі пьесу Ф. Аляхновіча „Птушка шчасьця“.

Трэба адцеміць — Тапілец невялічачкая вёсачка, ляжачая на этнаграфічным рубяжы Польшчы і Беларусі, на рацэ Нарве. Гурток Т. Б. Ш. і Беларускі Каапэратыў Спажыўцоў у в. Тапілец робяць аграмадны культурна-грамадзкі ўплыў на акругу, што выяўляецца, між іншым, у наведываньні беларускіх спэктакляў, ладжаных у Тапільскім Народным Доме — чысьленай публікай „з-за межы“ — польскай моладзьдзю, гаворачай мазурскай гаворкай.

## ВЯЛЕЙСКІ ПАВЕТ.

* * * 9 ліпеня адбыўся **арганізацыйны Сход Мельскага г-ка**, Жодзішнае воласьці. На старшыню г-ка выбраны Каз. Капач, на сэкрэтара Бр. Чартовіч, на скарбніка Язэп Конан, кандыдаты: Бр. Пішчака і Эдвард Капач. Прыняты пастановы: залажыць бібл.-чытальню,

арганізаваць сэкцыі: тэатральную, краязнаўчую і спартовую. Кіраўнікі: бібл.-чыт.—Эдв. Чартовіч, тэатральнай сэкцыі — Гіпаліт Шулюк, краязнаўчай—Язэп Капач і спартовай Бр. Пішчака. У склад наглядпай рады г-ка ўвайшлі: Я. Капач—старшыня, С. Касандровіч і Альжбета Капач — сябры.

Пастанавілі акуратна ўносіць сяброўскія складкі ня меньш 1 зл. у год і тут-жа на сходзе прыступлена да збору ахвяраў на „Летапіс“.

23 ліпеня адбыўся спэктакль у вёсцы Сырватках, ставілі „Каліс“, Ф. Аляхновіча, „Два жаніхі“, Вольнага і дэклямацыю. Зацікаўленьне агульнае вельмі вялікае, спэктакль і наагул вечарына прайшлі ў найлепшым парадку.

Пасьля арганізацыі г-ка прачытаны рэфэрат на тэму: „Спажывец і коопэратар“ — 16-VII у в. Паніжанах, 6-VIII у в. Ядрэўцах, 13-VIII у в. Сычыняты, 16-VIII у в. Расла і 20-VIII у в. Няхведах, — чытаў К. Чартовіч. На 6 жніўня дасталі дазвол на лекцыю Бр. Чартовіча ў в. Казярнякі на тэму: „Беларусь і Беларусы“, якую мелася ладзіць краязнаўчая сэкцыя г-ка, аднак лекцыя не адбылася, бо праз некалькі дзён пасьля атрыманьня дазволу, за два дні да лекцыі, г. знача 4 жніўня, п. Стараста прыслаў паліцыянта з забаронай чытаць лекцыю аб беларусах і Беларусі.

* * * **Новыя гурткі.** Дня 15 верасьня пасланы заявы Навагрудзкаму Старасьце на рэгістрацыю гуртка ў в. *Новая-Весь*, Нягневіцкай вол. Агульны лік сябраў 16 асоб, усе земляробы, у тым ліку два студэнты ун-та і адзін абсольвэнт Навагрудзкай гімназіі.

Пасланы друкі, патрэбныя на залажэньне гурткоў, сялянам в. *Нагуевічы*, Слонімскага павету, в. *Пачуйкі*, Горадзенскага павету, в. *Задубеньне*, Вялейскага пав. і в. *Жарэбкавічы*, Баранавіцкага павету.

---

ЯНКА ХВОРАСТ.

# НА ПОЭТЫЦКАЙ ВЫШЫНІ

## жарт у двух дзеях

**Дзеючыя асобы:**

1) Мікіта Струк } маладыя вясковыя хлапцы.
2) Алесь Гук }
3) Сьцяпан — бацька Мікіты.
4) Марыля — маці Мікіты.
5) Арына — маці Алеся.
6) Нічыпар — сусед Арыны.

### ДЗЕЯ I.

Сялянская хата. Проста ўваходныя дзьверы, на лева два акны. У правым дальнім куце печка, каля яе шырокая лаўка, на якой ляжыць пасьцель. На лева ад дзьвярэй палічка — на ей гаспадарскія рэчы.

ЗЬЯВА 1-я.

**Мікіта і Марыля.**

**Мікіта:** (*сядзіць за сталом і старанна выводзіць на паперы сваё імя і прозьвішча. Напісаўшы прыглядаецца да яго з усіх бакоў. Марыля варыць у печцы страву. Час ад часу злосна пазірае на Мікіту. Мікіта*

## АБМЕН ПАЛІТЫЧНЫМІ ВЯЗЬНЯМІ.

**У пачатку верасьня адбыўся абмен палітычнымі вязьнямі паміж Саветамі і Польшчай. З польскага боку выданы, адзін з закладчыкаў Т-ва Беларускае Школы, былы Дырэктар Віленскай Беларускай Гімназіі і Старшыня Грамады, праўдзейны член Беларускай Акадэміі Навук у Менску, Браніслаў Тарашкевіч, — з боку Саветаў — беларускі драматург Францішак Аляхновіч.**

## З жыцьця Беларускага Студэнцкага саюзу.

* * * Б.С.С. па заканчэньні акадэміцкага школьнага году пастанавіў ладзіць, па меры магчымасьці, публічныя прадстаўленьні на правінцыі ад „імя і на карысьць Саюзу". Дзякуючы гэтаму нягневіцкая студэнцкая моладзь — Віленскага і Варшаўскага студ. Саюзаў — з вялікім энтузыязмам прыступіла да культурна-асьветнай працы ў сваіх ваколіцах.

На першае-ж жаданьне, паставіць спэктаклі ў м. *Шчорсах* 9-га ліпеня і *Карэлічах* 12 ліпеня, атрымалі адмоўны адказ ад п. Наваградзкага Старасты, ня гледзячы на тое, што гэтая праграма ўжо ставілася ў Нягневічах 17 красаві-

---

*задаволены*). Адкуль ня зірнеш выходзіць добра. А як-жа будуць выглядаць гэтыя словы, калі іх выдрукуюць? Мікіта Струк. (*сьмяецца*). Хэ-хэ-хэ!.. Увесь сьвет тады даведаецца, хто такі Мікіта Струк! (*устае, засоўвае рукі у кішаню*). Кожны да зямлі мне будзе кланяцца. А дзяўчаты!. Э, на іх тады я і ні гляну. Я ім не раўня — я пісьменьнік.

**Марыля:** (*глядзіць злосна на Мікіту, раптам кідаецца ў печ з вілкамі*). А каб цябе хвароба, усенькае сала зьбегла з крупніку! (*Стукнуўшы вілкамі ў качаргах да Мікіты*). Сядзіць, як ідал які! Пашоў-бы ды памог малаціць бацьку. Узяўся за пісаньне. Пісаў-бы вольным часам. Дык-жа не: тады ён цягнецца ня ведама дзе і чорт знае чаго. Завала!

**Мікіта:** (*злосна*). Заткніся!..

**Марыля:** А каб табе заткнула ды не адпусьціла! (*хватае вілкі і падбягае да Мікіты*). Нюхаўку распару, гаду!

**Мікіта:** (*схапіўся, злосна*). Чаго-ж ты чапляешся?

**Марыля:** (*наступаючы*). Каму гаворыш заткніся?

**Мікіта:** А чаго-ж ты распусьціла ляпу? Тра-та-та-та-та!.. і канца ей няма.

**Марыля:** (*цішэй*). Гэта ты пішучы навучыўся так гутарыць з маткаю? Гэта такая ваша новая навука? Добра, няма чаго казаць — узгадавала сынка!

**Мікіта:** (*абураючыся*). Ты мне думкі перабіваеш! Натхненьне перабіла!

**Марыля:** Вельмі ты ўжо напхаўся, як відаць!

ка. Атрымаўшы такі адказ, сэкрэтар Б. С. Саюзу зьвярнуўся з новым паданьнем ужо да Ваяводзтва, у выніку якога быў дадзены дазвол на тэатральнае прадстаўленьне ў м. Шчорсах на 12-га ліпеня. Прадстаўленьне адбылося, але праграмы не прышлося выканаць да канца, бо ў дазволе не азначана была деклямацыя, што дало повад для паліцыі забараніць вершы. А шкада, вершы былі такія прыгожыя!

Пасьля гэтага вельмі лёгка дасталі дазвол на прадстаўленьне ў м. *Любча* на 16 ліпеня. Але тут зноў перашкода: у гэтай салі ў тоў-жа вечар жыды—сыяністы робяць пратэстацыйны мітынг проці Гітлера, прышлося адмовіцца ад спэктакля і павярнуць свае аглоблі назад.

Падгатовіўшы новую праграму, рашылі зноў прабаваць шчасьця ў сваіх родных *Нягневічах*. Зьвярнулісь да п. Старасты ў Наваградку аб дазвол на дзень 13 жніўня на пастаноўку „Паўлінкі" і інсцэнізацыі Я. Хвораста, „Вучоны бык", у нашым гістарычным „Магазыне". Дазволу не дасталі. Пастанавілі рук не апускаць і стукацца да Ваяводзтва. 11 жніўня былі прыняты ■. Ваяводай у Наваградку. Выслухаўшы нас, п. Ваявода зазначыў, што да такіх перашкодаў ён не дапусьціць і, калі толькі праграма апалітычная, то дазвол заўсёды будзе, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасьці. Дазвол дасталі на 19 жніўня. Народу было поўна. Ня гледзячы на тое, што самыя дарагія білеты былі па 25 гр., даходу атрымалі 56 зл. 50 гр. Пасьля нашае візыты у п. Ваяводы, перашкоды з боку п. Старасты спыніліся. Адзін за другім дастаём дазволы на лекцыі і прадстаўленьня.

* * * Дня 20 жніўня ў м. **Нягневічах** прачытаны лекцыі на тэмы: „Тэхніка на вёсцы" — студ. Віленскага Унівэрсытэту П. Першукеві-

---

**Мікіта:** Лезе ў вочы з сваею навукаю і з гэтай паршывай малацьбой. Згарыць ён няхай гэты твой цэп!

**Марыля:** Можа-б сьціх крыху? (*пайшла да печы*).

**Мікіта:** Пара ўже малаціць машынаю. Цэп — гэта такая абраза для нашага часу, што яго і ў рукі браць праціўна (*сеў*).

**Марыля:** (*грозна*). А есьці, таксама ты будеш машынаю? Нябось скварку дык голымі рукамі з агню выхваціш. Цэп яму ўзяць у рукі праціўна!

**Мікіта:** А ведама!

**Марыля:** Чаму-ж ты ня прыдбаў машыны? Зарабіў ты хоць грош у хату? (*падступіла да Мікіты*). Вісіш на бацькавым карку. Язык твая машына.

**Мікіта:** (*злосна*). Чаго ты трашчыш над вухам?

**Марыля:** (*павысіла голас*). Вось зараз як трэсну, дык цябе ліха возьмецы!

**Мікіта:** (*схапіў у рукі сшыток, алавік і бегаючы па хаце*). Вось і пішы тут!

**Марыля:** (*кпіць*). Пісар знашоўся!

**Мікіта:** (*горда*). А вось і пісар, ну і што-ж?

**Марыля:** Пісаў пісака — а разьбярэ сабака.

**Мікіта:** Як напішу ды пашлю ў газэту, як вы самагон гналі, паглядзім тады хто разьбярэ! Тады ты пазнаеш, які я пісар!

чам і „Што трэба ведаць кожнаму гаспадару з вэтэрынарыі“ — студ. Вэтэрынарыйнага Факультэту Варшаўскага Ун-ту М. Орсай. Паўтысячы сялян з неастываючай увагай сачылі за лектарамі і, прасядзеўшы 3 гадзіны з мінутамі, не хацелі выходзіць пакуль не запэўнілі іх, што ў хуткім часе будуць прачытаны новыя лекцыі.

* * * Дня 27-га жніўня адбылося прадстаўленьне ў м. **Нягневічах.** Адыгралі: „Конскі партрэт“ і „Пасланец“ — Родзевіча.

Перад спэктаклем студ. Варшаўскага Ун-ту Раман Лецко прачытаў лекцыю на тэму: „Значэньне тэатру ў жыцьці чалавека“.

* * * Дня 28 жніўня студ. М. Орса прачытаў лекцыю на тэму: „Разьвіцьце беларускай адраджэнскай літэратуры“. Лекцыя заняла 3 гадзіны 25 м. пры 600 слухачах.

* * * Дня 10 верасьня ў м. **Шчорсах** адыгралі: „Конскі партрэт“ і „Вучоны бык“; перад прадстаўленьнем студ. Раман Лецко прачытаў лекцыю на тэму: „Значэньне тэатру ў жыцьці чалавека“.

* * * 11 верасьня ў м. **Нягневічах** прачытаны лекцыі: „Зямля і яе жыхары“—студ. Раман Лецко і „Што ведаем аб сусьвеце“ — студ. П. Першукевіч.

У ладжаньні прадстаўленьняў прымалі жывы і актыўны удзел, апрача студэнтаў Варшаўскага Унівэрсытэту, абсольвэнты Беларускай Філіі ў Наваградку — Сазановіч Янка і Строк Вячэслаў, а таксама грамадзяне: Тур Якуб з вёскі Задворра і Першукевіч Іван з вёскі Новая Весь.

Урад Б. С. С. у Вільні складае ўсім шчырую падзяку за дапамогу.

* * * Дня 24.IX.33 ладжана была вечарына - спэктакль у мястэчку Нягневічах. Адыгралі „Прымакі“ Янкі Купалы і „Мікітаў лапаць“ Кудзелькі.

---

**Марыля:** (*падцінаючы*). Дык ужо і прыпіску зрабі, што за самагон галіфэ табе справілі (*выйшла*).

**Мікіта:** (*адзін*). Вось дзе няпісьменныя дзікуны. І чаго яна на мяне так узьелася? Як-бы я ня сын ей быў? Не заплакала-б пэўне, калі-б і памёр? (*сеў*). Але мала мяне гэта абходзіць. Пляваць мне на ўсякія жаласьці і сьлёзы. Я чалавек новы — найшоў сабе такую ідэю, што вывядзе мяне ў людзі: дасьць і славу і грошы. Я чалавек асаблівай катэгорыі — я пісьменьнік. Горай за ўсё, што дома не даюць магчымасьці выявіць свой талент. Капаюцца, як чэрві якія ў зямлі і брудзе, ды і мяне туды-ж цягнуць. Не, брат, дудкі. Мікіта ня дурань. Праўда, працаваць трэба, але ня гэтым дурным цэпам, а машынаю, трактарам. Хаця мне і да гэтага няма асаблівай ахвоты, але ці-ж я вінават, што урадзіўся пісьменьнікам і мяне цягне іншае поле працы, дзе я магу праявіць сваю здольнасьць? (*думае*).

**Марыля:** (*уваходзячы, злосна*). Ці ты яшчэ не пайшоў? А каб-жа на цябе трасца найшла.

**Мікіта:** Вось гэтак заўсёды: толькі пачнеш думаць, шукаць тэму, як тут табе трах — і ўзноў усё к чорту выляцела.

**Марыля:** (*схапіла вілкі, злосна*). Зараз-жа ты ў мяне выляціш.

**Мікіта:** (*хватае паперу, алавік і выбягаючы з хаты*). Вось-жа прычапілася, ну і будзь тут пісьменьнікам — напішы што.

**Марыля:** (*ставіць вілкі*). Шчасьце-ж тваё, што ўцёк. Дала-б ужо я табе пісьменьніка. Носам-бы ты па зямлі пісаў. Бацька, як тоў вол

* * * Дня 27.IX33. Тыя-ж самыя рэчы адыгралі ў мястэчку Шчорсах.

Два апошнія прадстаўленьні былі зладжаны выключна сіламі вясковай моладзі з вёсак Паплавы і Харосіцы пад кіраўніцтвам студ. Віл. Унівэрсытэта П. Першукевіча.

* * * **Матурысты:** Пасьля дадатковых экзаменаў у Беларускай філіі 15 верасьня атрымалі матуру Любоў Марцінчык і Адам Дасюкевіч.

# З Беларускага жыцьця за граніцай.

* * * **Літоўскі урад,** як падае беларуская прэса ў Латвіі, выдаючы дапамогі культурна-асьветным арганізацыям нацыянальных меньшасьцяў, зусім памінуў усе такія-ж арганізацыі беларускія.

* * * **У Латвіі** Т-ва Беларускае Моладзі сьвяткуе 5-я ўгодкі культура-асьветнае працы. Т-ва мае 14 аддзелаў пры 760 сябрах у Дзьвінскім, Люцынскім і Рэжыцкім паветах, 15-ты аддзел працуе ў Рызе. За 5 гадоў працы Т-вам пастаўлена каля 100 беларускіх тэатральных пастановак і канцэртаў, выслана аддзелам 3 струнных аркестры і 5 радыё-апаратаў, прачытана болей 30 лекцыяў і рэфэратаў на навукова-грамадзкія тэмы.

У пятыя угодкі істнаваньня Т-ва засылаем яму ад імя Т-ва Беларускае Школы і рэдакцыі „Летапісу“ пажаданьні разьвіцьця і памыснай працы на карысьць Беларускага працоўнага Народу.

**Мовы выкладаньня** ў школах Б. С. С. Р. складалі: расейскія ў 1921 г. — 21,5 прац., у 1931 г. — 6,5 прац.; беларускія ў 1921 г. — 21,5 прац., у 1931 г. — 83,5 прац.; польскія ў 1921 г. — 0,3 прац., у 1931 г. — 4,5 прац.

---

цягнецца, а гэтаму хоць-бы што. Як прычэпіцца да гэтага пісаньня, дык хоць ты кол на галаве чашы. Вазьмуся толькі я за цябе—пакажу я табе машыны, дам я табе трактара.

ЗЬЯВА 2-я.

**Марыля і Арына.**

**Арына:** (*уваходзячы*). Добры дзень, як маецеся. суседка? На каго-ж гэта так раскрычалася.

**Марыля:** А на каго-ж, ведама на каго. Гадавала, даглядала, прападала, начэй не дасыпала, думала помач будзе, а тут, на вось, чорце, табакі, маю помач. Забіў сабе ў галаву нейкія трарахтары ды машыны, дый вухам не вядзе на тое, што яму гаворыш.

**Арына:** Ды каму-ж гэта?

**Марыля:** А ды каму-ж, Мікіце, гэтаму шэльму, вырадку. То-ж усе людзі сьмяюцца, прайсьці не даюць, што такога маю сына.

**Арына:** За вошта гэта ты на яго?

**Марыля:** Ах, мая ты родненькая, ужо і сама ня ведаю, што з ім рабіць, як-бы з глузбу зьехаў—рабіць ані чагусенькі ня хоча, усё толькі піша ды піша Проста перад Богам грэх і перад людзьмі сьмех.

**Арына:** Ай, чаўпеш ты, кветачка, сама ня ведаеш што. Піша, ну



# „МАГАЗЫН“.

Вялізарная будыніна 45 $\times$ 15 мэтраў. Каго-б ня спытаць — малодшых ці старэйшых і нават зусім старэнькіх дзядкоў — калі ён пабуда-

---

і што-ж тут такога? Няма чаго людзей сароміцца. Вось і няхай піша, можа калісьці людзі пазайздросьцяць. Мой Алеська таксама піша.

**Марыля:** (*злосна*). Ня ўсе-ж такія гультаі, як твае дзеці. Я свайго да гэтага сораму не дапушчу.

**Арына:** (*павышана*). Няма чаго табе дапякаць гультаямі. Хоць гультаі, а гаспадарка, дзякаваць Богу, ня горшая, як у людзей.

**Марыля:** А табе няма чаго заступацца за гультаёў. Я да гэтага не дапушчу.

**Арына:** (*злосна*). А табе няма чаго!..

**Марыля:** (*злосна, перабіваючы*). Няма чаго!..

**Арына:** (*таксама*). Няма чаго!..

**Марыля:** (*ізноў*). Няма чаго!..

**Арына:** (*не падаецца*). Няма чаго!..

**Марыля:** (*хватае вілкі*). Дык ты ў маей хаце не дасі мне слова прагаварыць?

**Арына:** (*жагнаецца*). Госпадзі Сусе, прыйшла да яе, як да добрае, пагаварыць, сакрэтам пацешыць, а яна ўжо з вілкамі кідаецца!

**Марыля:** (*мягчэй*). Дык-жа гавары, ня будзь у чужой хаце гаспадыняй.

**Арына:** Калі-ж ты не даеш і піснуць.

**Марыля:** Ну годзе ўжо. А якіж гэта там сакрэт?

ваны, кожны адкажа: „Я ня ведаю“. Якія першапачаткавыя мэты яго будовы — таксама ня ведама. Толькі ўжо крыху пазьней пасьля паншчыны і да сусьветнай вайны „Магазын“ быў ужываны для схову збожжа на выпадак неўраджайнасьці: у цяжкія хвіліны кожны мог браць у магазыне безпрацэнтную пазычку натураю да новага ўраджаю.

Пасьля вайны яго ранейшае заданьне кончылася. „Магазын“ заместа фізычнай дае сялянам страву духовую, бо ператварыўся ў тэатр. У 1927 г. Нягневіцкі гурток, які гуртаваў каля сябе сялян з 4 суседніх вёсак, у паразуменьні з гміннай Радай дастае яго ў арэнду на досыць дагодных варунках. З гэтага часу „Магазын“ стаўся цэнтрам беларускай асьветы. Тут гурткі Т-ва паставілі каля 50 прадстаўленьняў. У бягучым годзе студэнты Беларускіх Саюзаў у Вільні і Варшаве апрача ладжаных тэатральных пастановак, зрабілі вялікі крок наперад, а менавіта: у „Магазыне“ да гэтага часу прачытана 6 публічных лекцыяў на розныя тэмы. Аб вялікай зацікаўленасьці сялянскіх масаў жывым беларускім словам — лекцыямі — найлепей сьведчыць кожны раз перапоўненая саля і уважлівае адношаньне слухачоў да кожнага слова лектара. Вось чым стаўся для нас ранейшы „Магазын“ — Народным тэатрам і Народным Унівэрсытэтам.

**Нягневічанін.**

---

**Арына:** Дык вось-жа няма чаго...

**Марыля:** (*перабіваючы*). Ты ізноў няма чаго? Арынка, прысягаю, што і грэху не пабаюся, вілкамі прапару, як тую..

**Арына:** Госпадзі Сусе!..

**Марыля:** І малітва не паможа. Кажы вось лепей сакрэт. (*лагодна*). Ну кажы, кажы, Арынка.

**Арына:** Як-жа табе гаварыць, калі як гляну на цябе, дык язык колам становіцца. І што-ж гэта з табою робіцца, суседачка? Я-ж кажу, няма чаго... (***Марыля** злосна бліскае вачыма на **Арыну** — **Арына** спалохана*). Гэта я пра сакрэт. (*цягне **Марылю** за руку да печкі*). Вось сядзьма, Марылька, усенька раскажу. (*селі*). Езьдзіў сяньня мой стары ў места. Я ўжо на яго крыху і сварылася, што дарма толькі грошы траціць, як паедзе на кірмаш, але ён такі не паслухаў — узяў ды і купіў такі газэту, ведаеш.

**Марыля:** (*уздыхае*). Ох, людцы мае, усе ў вучоныя лезуць!

**Арына:** Мая ты кветачка, паслухай далей! Чытае мой Алеська гэную газэту, ажно і вычытаў там такое. Ох, Госпадзі Сусе, можа і мы ня будзем гэтак гараваць, ня будзем бяду цярпець.

**Марыля:** (*цікава*). Ды што, што там такое вычыталі, гавары Арынка.

**Арына:** А вось і кажу, і вычыталі там такое. Вялізарнымі літарамі гэта напісана. Аж я зацікавілася, не ўцярпела, падыйшла такі ды й гля-

# Навіны.

* * * У канцы жніўня ў Варшаве адбыўся міжнародны кангрэс гісторыкаў, на якім прымалі удзел да 1000 дэлегатаў ад 40 народаў. Былі прадстаўнікі нават з Індыі. Была також дэлегацыя савецкіх вучоных, у склад якой ад Беларускай Акадэміі Навук у Менску уваходзіў прэзыдэнт яе праф. Горын.

* * * 15 верасьня каля Чэбаксар у Саветах разбіўся польскі аэраплян, на якім палкоўнік Філіповіч і кап. Леванеўскі павінны былі зрабіць рэкордны палёт на адлегласць. Пры катастрофе кап. Леванеўскі забіты, а плк. Філіповіч ранены. На спатканьне раненаму з вы- разамі спачуцьця выяжджаў Старшыня Чувашскае Рэспублікі. Астанкі кап. Леванеўскага з вайсковымі почэсьцямі дастаўлены да польскае граніцы і перадзены польскім уладам.

* * * Савецкім лётнікам удалося падняцца ў стратасфэру на вышыню 19,300 мэтраў. Гэтым палётам яны пабілі рэкорд проф. Піккара, які ў свой час падняўся на 15,781 м. Па радыё-весткам, якія падавалі лятуны на зямлю, на вышыні 17,000 мэтраў тэмпэратура 64 градусы марозу; у гэты час у стратапляне было 14 градусоў цяпла.



нула. І праўда, мая ты зязюлька: літары вялізныя, як тыя валы, а чорныя, як жучкі.

**Марыля:** (*аж гарыць ад цікавасьці*). І аб чым-жа яны пісалі гэтыя літары вялізарныя, як жучкі, а чорныя, як валы?

**Арына:** Нікамусенькі я не сказала-б, бо мой прыказаў, каб нікому, нават найраднейшаму, не гаварыла. Чым, кажа, меней хто будзе ведаць, тым лепей. Але я ўсё-ж падумала і аб вашай бядзе: ні багатыя вы, а Мікітка твой таксама піша.

**Марыля:** (*расчаравана*). Дык гэта сакрэт пра пісаньне? То-ж усе людзі ведаюць, якога маю сына: нічога рабіць ня хоча, а ўсё піша ды піша.

**Арына:** (*паважна*). Піша? І няхай піша. (*Марыля хоча ісьці*). Але-ж пачакай, я-ж табе яшчэ не сказала, які гэта сэкрэт. (*Марыля нехаця слухае*). Мой Алеська піша, і твой Мікітка піша. Ой будзем ужо мы людзьмі. Я й сама ня верыла, што гэта так у газэце напісана, але, кажу, сама бачыла: літары вялізарныя, як валы, а чорныя, як жучкі. Госпадзі Сусе, як-жа лёгка чалавеку дасталася шчасьце.

**Марыля:** (*цікава*). Шчасьце, кажаш?

**Арына:** Але, ды яшчэ якое Атрымаў тысячу рублёў за адно толькі пісаньне.

**Марыла:** За пісаньне? А хто-ж гэта такі?

**Арына:** А вось, кажуць, з вёскі нейкай і ні надта ўжо вучоны, ну

# Культурнае зьдзічэньне.

Паважную небясьпеку дасюлешнім культурным здабыткам прадстаўляе сучасны гітлерызм у Нямеччыне.

Першыя крокі гітлероўскай улады — гэта было публічнае паленьне на плошчах кніг — літэратурных і навуковых твораў ня толькі гэтак званых марксістаў, але і наагул паступовых пісьменьнікаў — з пагромамі жыдоў. „Ідэёвая“ падстава яго — гэта нацыяналізм, толькі нацыяналізм не абаронны, баронячы свае правы ад пасяганьняў іншых нацыяў, але заборчы, які хоча панаваць над іншымі нацыянальнасьцямі

Ува ўнутранай палітыцы ён скіраваны пераважна супроць жыдоў і выяўляецца ў чыстпы як дзяржаўнага апарату, так і грамадзкіх і прафэсыянальных і эканомічных арганізацыяў ад элемэнтаў не-германскіх. Нават у прыватных адносінах пад лёзунгам „расізму“ праводзіцца аддзяленьне сябе ад нацыянальна чужых элемэнтаў.

Усімі гэтымі мерамі нацыянальныя меншасьці ставяцца у бяспраўнае, прынамсі ніжэйшае палажэньне ў адносінах да пануючай нацыі.

На вонкі гэты нацыяналізм выяўляецца ў заборчых, імпэрыялістычных імкненьнях. Сьродак да гэтага — вайна, якая ідэалізуецца гітлерызмам. У кнізе праф. Эвальда Баўзэ, „Навука аб ваенных справах“, вайна прызнаецца вечным абнавіцелем жыцьця, а нямецкая царква псыхолёгічным фактарам у падрыхтоўцы да яе. У Браўншвэйгскай палітэхніцы заснавана катэдра

---

можа не балей за майго Алеся ці твайго Мікіту. Гэтак і ў газэце напісана, кажуць.

**Марыля:** Дык за пісаньне, кажаш?

**Арына:** За пісаньне, зязюлька. Напісаў гэта ён такую кніжачку з вершамі, ну і за гэта атрымаў тысячу рублёў.

**Марыля:** Тысячу рублёў?!..

**Арына:** Вось, кажу, шчасьце чалавеку. Адразу падняў на ногі гаспадарку. Але ня толькі ён атрымаў. Там і другі атрымаў, меней крыху, што праўда, атрымаў — пяць сот рублёў, а ўсё-ж такі атрымаў Так і ў газэце напісана, я сама бачыла.

**Марыля:** Пяць сот рублёў. А за што-ж той другі атрымаў? Таксама за вершы?

**Арына:** Не, той другі напісаў такое прадстаўленьне, што ў ціятры гуляюць і атрымаў пяць сот рублёў. Дык вось, як прачытаў мой Алеська пра гэта ў газэце, дык і кажа: „Ну, мама, пачну і я пісаць вершы на тысячу рублёў“.

**Марыля:** Тысячу рублёў! А нам гэтак патрэбны грошы. Трэба купіць і тое і сёе.

**Арына:** Трэба купіць і тое і сёе, а ты вось раскрычалася на Мікіту, што ён піша. Няхай піша, мая рыбачка, мой Алесь на тысячу, а твой Мікіта на пяцьсот рублёў. І гэта грошы.

**Марыля:** А ці-ж твой Алесь балей вучоны за Мікіту, што будзе пісаць на тысячу, а мой на пяцьсот?

аб ваенных справах, дзе праф. Э. Баўзэ прапануе, як найлепшае аружжа і няўнікнёны спосаб вядзеньня будучай вайны— атручваньне піцьцёвай вады, распаўсюджваньне чумы і тыфу ў тылох праціўніка. Гэты „вучоны“ прапануе курс ваеннай навукі ўвясьці ў школы з малодшых клясаў гімназіі; гульні ў вайну, абвучэньне стральбе, гісторыі аб разбойніках павінны разьвіваць у дзяцей гэраічныя густы.

## АБ ВІТАМІНАХ.

Адсутнасьць якой небудзь групы вітамінаў у ядзе выклікае хвараблівыя зьявы ў арганізме чалавека. Напрыклад, вітаміны А спрыяюць росту; іх многа ў малаце, яйцах, рыбім жыру, гароднiне. Вітаміны Д называюцца антырахітычнымі; калі іх бракуе, то ў дзяцей звычайна бывае рахіт— скрыўленьне касьцей. Вітамінамі С багаты: капуста, бурачкі, салат, фрукты, ягады і малако. Пры кіпячэньні і кансэрваваньні гэных прадуктаў вітаміны зьнішчаюцца. Вось чаму пры кармленьні дзяцей не рэкамэндуецца доўгае кіпячэньне прадуктаў. Адсутнасьць у ядзе вітамінаў С выклікае хваробу цынгу. Нядаўна Ленінаградзкі праф. Іваноў адкрыў вітаміны С у чыстым відзе з чорных парэчак, як крышталі. Такім чынам знойдзены радыкальны спосаб змагаць цынгу—хваробу паўночных краін, дзе бракуе фруктаў, малака і гародніны.

## ПРЫСЛАЛІ ПАДПІСКУ і АХВЯРЫ:

Ельцаўскі гурток 10 зл., Улезлаўскі гурток 5 зл., Д-р М. М. 50 зл., Коопэр. „Прышласьць“ у Даўгінаве, Стаўпецкага пав. 2 зл., Г. Шулюк — 50 гр., Будслаўскі гурток Б. Інст. Гасп. і К. 2 зл., Праз д-ра М. 2 зл. 40 гр., Гарбачоўскі гурток 1 зл. 80 гр., Ступніцкі 2 зл., Д-р М. М. 50 зл., Прышчэко Рыгор 1 зл. 80 гр., Ліхачэўскі К. 1 зл., Жыулюк Язэп 1 зл. 60гр., Матрончык 50 гр., Талуць 1 зл., Цішэйскі 1 зл, Зайкоўскі 50 гр,, Жыткевіч С. 50 гр. Дубатоўка А. 50 гр., Бакач М. 1 зл... Разам — 135 зл. 10 гр.

(Далей будзе).

---

**Арына:** Не, мая рыбачка, ён можа і не балей вучоны, разам-жа хадзілі да школы, але Алесь кажа, што яму лягчэй пісаць вершы. Дык няхай ужо мой піша вершы, а твой ціятры.

**Марыля:** А няхай ужо сабе піша. Праўда, што я сварылася на Мікіту за гэтае пісаньне. Але калі за гэта грошы плацяць, — няхай ужо сабе піша.

**Арына:** Няхай піша — пяцьсот рублёў ня жартачкі, на вуліцы ве валяюцца, (*схапілися*). Ой, чаго-ж я засядзелася ў цябе? З радасьці чалавек і за працу ня можа ўзяцца. Ой можа матанька найвышняя дасьць, што і мы будзем жыць ня горай ад людзей.

**Марыля:** Ой, прыгадзіліся-б грошы ў гаспадарцы, чаму не.

**Арына:** Толькі-ж маўчы, Марылька, пра гэтыя тысячу рублёў і сваймy роднаму не кажы.

**Марыля:** А ты ўжо Арынка, пра пяцьсот нікому ні гу - гу.

**Арына:** Тысяча ўсё-ж такі балей.

**Марыля:** Але - ж і пяцьсот грошы.

**Арына:** (*выходзячы, захоплена*). Тысяча, рыбачка!

**Марыля:** (*ідучы за Арынаю*). Пяцьсот, зязюлячка! (*выйшлі*).

(*Працяг будзе*).

---

Выдавец: Т-ва Бел. Школы. Адказны Рэдактар: Ф. Стэцкевіч.

Друкарня Е. Котлярэўскага. Вільня, Віленская вул. № 34—8.

# Конь бяжыц, зямля дрыжыць.

*(Народная).*

ГАРМ. А. ГРЭЧАНІНАВА.






Друкарня Е. Котлярэўскага. Вільня, Віленская вул. № 34 — 8.